

„Дрэва і сакрум” у Шчытах ➔3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714





Даведнік Уладзіміра Хільмановіча ➔5

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 36 (3043) Год LIX | Беласток, 7 верасня 2014 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# БЕЛАРУСКАЕ «ІНШАЕ ВЫМЯРЭННЕ»

**Беларушчына па здагадцы галоўнага арганізатара, то-бок, Беластоцкага асяродка культуры (БОК) павінна была стаць візітнай карткай сёлетняга, ужо другога фестывалю «Усход культуры — Іншае вымярэнне». І была, толькі спіхвана на абочыну гэтага мерапрыемства. Без сумневу, падзеямі фестывалю сталі прэзентацыя праекта Мірослава Балкі ў Крынках, выстава «Пазбаўленне» і дэбаты, якія суправаджалі яе ў галерэі «Арсенал», канцэрт «Пры мяжы», прэзентацыі дакументальных фільмаў Вольгі Дашук, Віктара Аслюка і Мікалая Ваўранюка («Гаворац беларусы Падляшша»), ці беластоцкае выданне дэбатаў «Беларускі міф», якіх першая частка адбылася ў час «Трыялогу» ў Крынках.**

Чатырохдзённае мерапрыемства было адкрыта ў Беластоку 28 жніўня прэс-канферэнцыяй міністр культуры і нацыянальнай спадчыны Малгажаты Амільяноўскай і дырэктара падпарадкаванага гэтаму ведамству Нацыянальнага цэнтра культуры (суфінансуючага «Усход») Кшыштафа Дудка. Міністр адзначала:

— Фестывалі ў Любліне, Жэшаве і Беластоку, якія счапілі мы парасонам званым «Усход культуры», фактычна былі ініцыяваны гарадамі значна раней. Мы выступілі толькі ў якасці дадатковай падтрымкі гэтых праектаў, якія былі тут на месцы задуманы мясцовымі супольнасцямі. Гэта не ёсць пакет прывезены ў чамадане з Варшавы. Гэта вынік свядомых патрэб, вынікаючых з мультыкультуралізму калісці гэтых тэрыторый і надалейшай прысутнасці меншасцей, якія пражываюць ва ўсходняй Польшчы, людзей, якія маюць розныя чаканні, тоеснасці і ідэнтыфікацыі, а праз культурныя мерапрыемствы, такія як «Усход культуры», маюць шанцы на супольнасцевае выпрабаванне.

Яна адзначыла затым:

— Асаблівай увагі заслугоўвае праект рэалізаваны Міраславам Балкам у Крынках (арганізатар: Фонд Villa Sokrates — М. Х.), таму што гэта абазначае, што Беласток мае магчымасць і патэнцыял запрашэння мастака сусветнага класа.

Дырэктар Дудэк адзначыў:

— «Усход культуры» таксама надзвычай важны з пункту гледжання адукацыі, павышае культурныя кампетэнтнасці грамадзян і гэта ў будучыні прынясе прыбыткі.

Проста з прэс-канферэнцыі міністр Амільяноўская паехала ў Крынкі, дзе на руінах мясцовай сінагогі прыняла ўдзел у кульмінацыйнай частцы праекта сусветнай вядомасці мастака Міраслава Балкі (падрабязней аб гэтай падзеі ў наступным нумары). Тут сказала «Ніве»:

— Я не хачу быць крытыкам «Усходу культуры», таму што я бачу ў ім вялікія якасці і каштоўнасці, але і не хачу пазіцыянавацца ў якасці яго абсалютнага энтузіяста. Кожны фестываль прыносіць у сабе івентавыя элементы пры ўмове, што ён добра прадуманы, служыць кантакту людзей з культурай. Я мару, каб у наступныя гады ўстановы, што займаюцца фестывалем, падышлі з большай адкрытасцю да магчымасці супрацоўніцтва з польскімі суседзямі, у тым ліку з Беларуссю.

Сярод падзей, якія ўпісаныя ў формулу стварэння сумесных праектаў у рамках «супрацоўніцтва са сваімі суседзямі», без сумневу, была выстава «Пазбаўленне» (мы падрабязна аб ёй пісалі тыдзень таму) і суправаджаючыя яе падзеі, у тым ліку дыскусія прысвечаная міграцыі ды «Міжнародная ноч ежы» па ініцыятыве мастакоў з Грузіі.



Фота Адама ПАЎЛОЎСКАГА

«Стары Ольса» вучыў таксама старадаўнім беларускім танцам




Фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

Ува ўсім мастацкім праекце ў Галерэі „Арсенал” прыняло ўдзел 27 мастакоў з 11 краін свету

Ува ўсім праекце прыняло ўдзел 27 мастакоў з 11 краін свету. Выстава будзе дзейнічаць да 6 лістапада. Паказаны працы беларускіх мастакоў Аксаны Гурыновіч і Аляксандра Камарова. Праца мастачкі (кніжка, люстэрка, калаж з паперы) звяртае ўвагу, што сярод многіх архітэктурных помнікаў Мінска, прысвечаных Другой сусветнай вайне адсутнічае манумент у памяць гета існуючага тут з 1941 па 1943 год і аднаго з найбольшых у Еўропе генацыду габрэяў. У размове з «Нівай» падчас цырымоніі адкрыцця ў сядзібе галерэі ў Старой электрастанцыі сказала:

— Турбуе мяне, што мала хто ў Беларусі ведае сваю гісторыю. Унікальнасць Беларусі ў тым, што магчымым было ў ёй згоднае жыццё побач сябе шматлікіх нацыянальнасцей. Унікальная была памяркоўнасць і лаяльнасць у адносінах да іншых культур. Гэта мірнае суіснаванне народаў Беларусі з дапамогай палітычных інструментаў размываецца ў памяці беларускага народа. У беларусаў ёсць падставы ганарыцца гісторыяй сваёй талерантнасці. Інфекцыя прыйшла з Расійскай імперыяй і габрэйскімі пагромамі. У дні Савецкага Саюза адкідвалі якія-небудзь успаміны пра халакост. Сталін пачаў уласную антысеміцкую палітыку таксама ў Беларусі, гэта значыць — як ён назваў — барацьбу з касмапалітызмам. Гэта было нішто іншае як савецкі халакост. Мінск вядомы тым, што на кожным кроку стаяць гіганцкія помнікі, прысвечаныя ахвярам Другой сусветнай вайны, а вакол сціплага абеліска ў Малым Трасцянцы — дзе быў лагер смерці, у які была вывезена частка габрэяў з ліквідаванага мінскага гета — калі я туды паехала, там пасвіліся тры каровы. Калі я спыталася ў галоўнай архітэктар Мінска, чаму гэта адбываецца, яна адказала: «Таму што яны, у рэшце рэшт, былі габрэямі». Гэты дысбаланс зацікавіў мяне, таксама як мастачку, каб пацікавіцца гісторыяй.

У сваю чаргу, Аляксандр Камароў у старой сядзібе «Арсенала» па вуліцы Міцкевіча паказаў дзве працы. Першай з іх з'яўляецца ўстаноўка «35 грам» аб ментальных і фізічных межах, якія вынікаюць з нацыянальнай самасвядомасці, звязанай са становішчам імігрантаў мастакоў з Усходу, у тым ліку і самога мастака і іх супрацоўніцтва з заходнімі ўстановамі. Назва 35 грам гэта вага пашпарта, якога лісты з'яўляюцца асноўнымі «героямі» ўстаноўкі. Другая праца: «Паліпадуаценне» (відэа і кніжачка-слоўнічак) з'яўляецца вынікам моўнага эксперыменту, які мастак меў з беларусамі, пражываючымі ў Амстэрдаме ў батанічным садзе, дзе назвы раслін прыведзены на незразумелай звычайна, мёртвай латыні. Моўныя бар'еры прывялі да стварэння ім трэцяй, штучнай мовы. У размове з «Нівай» ён сказаў:

— Гэта адзіная такая мова здольная паказаць вопыт жыцця ў выгнанні, невымоўны ані ў старой, ані новай радзіме. На іміграцыі, напрыклад, у Нідэрландах, беларуская мова не з'яўляецца інструментам для выяўлення, яна не выкарыстоўваецца. У той жа Беларусі пасля вайны беларуская мова была толькі адным з прадметаў у школах, не выкарыстоўвалі яе на вуліцы. Зараз наступае яе адраджэнне, асабліва ў Мінску. Надае высакароднасці. Тым не менш, ні ў эміграцыі, ні ў Беларусі не з'яўляецца ўніверсальнай мовай кантакту. Праз маю працу я раздумваю, ці можна мець зносіны не па сэнсе слоў, а па гуках, якія нясуць іх структуру. Мы з удзельнікамі сустрэчы ў амстэрдамскім батанічным садзе прыдумалі 65 новых слоў, якія гучаць як беларускія, але ніхто ў Беларусі іх не разумее. Яны нясуць у сабе шмат за сабой, але што менавіта, цяжка сказаць. Ніхто ў Беларусі не ведае як беларускую мову зрабіць сваёй. Сёння знакі, сімвалы вызначаюць ідэнтыфікацыю больш чым мову ў старым сэнсе. Аднак мова, таксама прыгожая беларуская мова, нясе з сабой і традыцыю, і ідэнтычнасць. Але яна павінна мадэрнізавацца, адаптавацца да сучаснасці, каб выказаць больш пачуццяў, патрабуе больш дыху.

У час адкрыцця выставы «Пазбаўленне» на сцэне побач з сядзібай Беластоцкага асяродка культуры, затаіўшы дыханне, удзельнікі «Іншага вымярэння» захапляліся выступамі моцна занятага канцэртамі ў апошні час у Беларусі гурта «Стары Ольса» і музычнага праекта «25 АБ-БА аркестр», які быў створаны ў сувязі з юбілеем 25-годдзя фестывалю музыкі маладой Беларусі «Басовішча». Аркестр складаецца з 25 дзяцей, якія вывучаюць беларускую мову ў Беластоку і інструменталістаў з групы «Dead Insemination» Паўла Азяблы, а працуе пад мастацкім кіраўніцтвам беларускай рок-легенды Лявона Вольскага з удзелам другіх зорак беларускай рок-сцэны і апекай Аліны Ваўранюк, якая пры нагодзе беластоцкага выступу сказала нам:

— Наш праект быў зроблены, перш за ўсё, з думкай пра «Басовішча». Выдумаў яго Юрка Асеннік і нам здалося, што гэта выдатная ідэя. Мы вырашылі выступіць таксама ў Беластоку на «Усходзе культуры», каб паказаць, што беларуская культура, музыка гэта не проста нейкія «пявучыя цёткі», хоць я нічога не маю супраць іх, калі выконваюць аўтэнтычны фальклор, а не апрацаваны, які з'яўляецца ліпкім. Мы хацелі паказаць, што беларуская музыка файная, засвойваецца, і што маладыя людзі таксама хочуць яе паказаць у Беластоку, што мы, беларусы, увесь час тут, і мы будзем, калі так дзеці співаюць. Я толькі задаюся пытаннем, калі гэты «Усход культуры», як маркуецца, усталяваны на беларускую культуру, дык чаму арганізатары, адкрыта гаворачы аб фестывалі, абмінаюць імпрэзы беларускай меншасці, чаму, калі расстаўлена сцэна перад ратушай і стаіць яна пустая, наш канцэрт выштурхваецца перад будынак БОК?

Аб шэрагу іншых беларускіх падзей «Усходу культуры — Іншага вымярэння» — праз тыдзень.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**





# Права на жыццё

Паўтара тыдня таму мне давялося забіраць рэчы расстралянага чалавека. Забіраць разам з яго маці, ад чаго было асабліва цяжка псіхалагічна. Забойства аднаго чалавека нельга выправіць смерцю іншага. Гэта ў старым запавеце быў прынцып „вока за вока, зуб за зуб". Цяперашні хрысціянскі свет жыве пераважна паводле евангельскіх прынцыпаў Новага запавету. Смяротнае пакаранне ліквідавана ў Еўропе ўсюды. І толькі Рэспубліка Беларусь застаецца апошняй выспай дзікай расправы над злачынцамі, узорам сярэднявечнага дзікунства.

Мабільныя тэлефоны, пустое партманэ, плыты і касеты расстралянага, нарэшце яго ныя дзяга і пантофлі... Дзве кардонныя скрынкі рэчаў, якія застаюцца маці. Сама яна дагэтуль не верыць, што яе сын здзейсніў такое страшнае злачынства. У гэта сапраўды цяжка паверыць, калі чытаеш яго ныя лісты, якія ён пісаў ужо ў зняволенні, чакаючы спярша найгоршага прысуду, а пасля непазбежнага яго выканання. „Убыл по приговору" — так гэта называецца на іхняй нялюдскай мове, якая заўсёды камуфлюе і скрывае сапраўдны сэнс з'явы. Дзейснае заканадаўства Рэспублікі Беларусь прадугледжвае не толькі расстрэл за асабліва цяжкія злачынствы, у ім закладзены таксама фактычнае катаванне блізкіх падсуднага. Цела расстралянага паводле яшчэ сталінскага палажэння закону сваякам не аддаецца, а месца яго пахавання таксама не паведамляецца. У дзяржаве, якую цяжка назваць праваной, гэта можа спараджаць розныя домыслы — ці сапраўды расстралялі чалавека, ці не выкарысталі яго цела для нейкіх доследаў, у анатамічных мэтах? А з іншага боку спараджае ў сваякоў асуджанага на смерць ілюзорную надзею на тое, што ён жывы. Сапраўды вельмі жорсткі від псіхалагічнага катавання!..

Не ведаю як вялося следства ў канкрэтным выпадку, але нават беглы агляд зместу калекцыі музыкі гэтага засуджанага на смерць маладога хлопца прыводзіць да высновы, што з псіхікай у яго былі праблемы, што здаровы чалавек такога слухаць не будзе. А псіхічна хворых нельга забіваць, іх трэба ізаляваць ад грамадства, але ніяк не забіваць. Але закон фактычна не пакідае суддзі выбару.

Пакаранне смерцю ніколькі не змяншае зла, а толькі памнажае яго і павялічвае нянавісць. Як адчувае сябе пасля абвяшчэння такога прысуду суддзя, які нібыта ўсяго толькі выканаў заканадаўства, што яму сніцца, як адбіваюцца на ім праклёны іншых? А нехта ж мусіць яшчэ націснуць курок, скіраваўшы рулю агністрэльнай зброі ў патыліцу засуджанага да смерці. Колькі такіх прысудаў выканае гэты чалавек, што будзе ўрэшце з яго псіхікай праз пэўны час? Ну і канешне імавернасць судовых памылак. Аднаго гэтага аргумента, як мне падаецца, дастаткова для таго, каб адмяніць смяротнае пакаранне, а прынамсі абвесціць на яго мараторый. Ужо наколькі адладжаная судовая сістэма ЗША, дзе таксама ў многіх штатах дагэтуль практыкуецца смяротнае пакаранне. Але і там было афіцыйна агучана, што за 80 гадоў на электрычнае крэсла паслалі каля 20 нявінных ахвяр.

Еўропа сапраўды адмовілася юрыдычна ад смяротнага пакарання. Толькі такая прырода чалавечай супольнасці, што яна ніяк не можа навучыцца жыць без знішчэння сабе падобнага. З'явіліся вычварэнскія плыні, якія наўпрост ідуць супраць усіх законаў прыроды, супраць Божага провіду, супраць звычайнай чалавечнасці. І вось ужо на поўным сур'ёзе цягнуць на разгляд законапраекты, якія прадугледжваюць забарону жанчынам нараджаць да дасягнення пэўнага тэрміну гадоў. Прапаноўваецца стэрылізацыя і іншыя злачынствы. Пра аборты тут ужо і не кажу — тыя, што некалі нарадзіліся, самі адмаўляюць у праве з'явіцца на свет іншаму чалавеку. Маштабы гэтай з'явы проста прыводзяць у жах. Так што, на жаль, нічога не мяняецца ў прыродзе чалавека праз стагоддзі. Людзі, якія самі хочуць жыць і жыць доўга, адмаўляюць у гэтым праве іншым. Але думаць пра гэта звычайна не хочуць...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Дарога Януса



Рускі двухгаловы арол так маецца да беларускага нацыянальнага герба, як прэзідэнт Лукашэнка да старажытнарымскага бога Януса. Бо напружвшы ўяўленне можна дашукацца і ў першым, і ў другім выпадку тонкіх аналогій. Што тычыцца арла, ён, верагодна, захварэў на катаракту. Гэтае сур'ёзнае захворванне вачэй прыводзіць да слепаты. Ён становіцца ўсё больш і больш галодным. Усё больш і больш раз'юшаным. Хаця трапіўся яму, як сляпой курыцы, Крым, але ці можа такой дробкай нажэрціся? Так дзяўбучы далей налева, направа, нарэшце, дадзяўбецца да дажынкавага лукашэнкаўскага герба Беларусі. Ну а з гэтым Янусам так ёсць: гэта быў старажытнарымскі бог усіх асноў, апякун кантрактаў і саюзных дагавораў. Паказвалі яго ў выглядзе асобы з двума тварамі, адзін з якіх выглядаў на ўсход, другі на захад... Калі хто-небудзь натужыцца, дык, безумоўна, заўважыць яго падабенства з Аляксандрам Лукашэнкам. Ён, дарэчы, паводзіць сябе ў сваёй краіне як бог. Падабенства з Янусам можна прасачыць і ў яго палітыцы ў дачыненні да Еўрапейскага Саюза. Яна ў роўнай ступені неадназначная, так як і да Расіі. Гэтак жа, як ва ўнутраных справах, калі ён паказвае незвычайны клопат аб сваім дзесяцімільённым статачку і ў той жа час абмяжоўвае яго грамадзянскія свабоды, няволіць непакорных, душыць голас пазарэжымных СМІ, тым самым пазбаўляючы суайчыннікаў шырокага агляду рэчаў і ідучай за гэтым глыбейшай рэфлексіі. Каротка гаварыўшы: адбірае ім асноўнае права чалавека... да самастойнага мыслення. А гэта немагчыма, калі ў вуха сярэдняга грамадзяніна фільтруецца толькі адзіная па змесце прапаганда. Дзіўна, аднак, такая янусавая стратэгія прыносіць беларусам пэўныя карысці. Ну і што, што спрэчныя! Нягледзячы на падаючую эканоміку, беларускае грамадства стаічна трывае ўпаўзаючую ў іх жыццё галечу. Не бунтуецца. Не страйкуе. Не хапаецца біцца. Філасофія «хаткі скраю», здаецца, сапраўды задавальняе яго пераважную большасць. Варта таксама адзначыць, што нядаўнія перамовы прэзідэнта Украіны Парашэнкі з Пуціным у Мінску адкапалі Беларусь з геапалітычнай Леты. Вочы свету зноў звярнуліся на гэтую невялікую, але вялікую цярпеннем свайго народа, краінку. Пішу «краінку» толькі па прычыне валодаючага ёю Аляксандра Лукашэнкі, які зрабіў з Беларусі пагарджанага ізгоя Еўропы. Дзякуючы гэтаму, аднак, еўрапейцы зноў спыталіся: «А як з гэтай Беларуссю? Еўрапа без яе моцна расколата. Ужо пара прыйсці да яе з дапамогай — толькі якой? Фінансавай ці маральнай?».

Да еўрапейскай маралі беларускі прэзідэнт адвярнуўся задам ужо даўно. Але не адмовіўся ад фінансавай падтрымкі. У той жа час трэба памятаць, што ён аваладаў мастацтвам адварочвацца задам да ўсяго і ўсіх. Да галасоў знешняй і ўнутранай крытыкі. Да засцярог Расіі адносна ягонай лаяльнасці, да лямантаў заходніх дэмакратаў, папракаючых яго ў самадзяржаўі. Адварочваецца пасля дзіўна, і да Усходу, і да Захаду. Усё ж, не забывайце, што красамоўнае паказанне азадка ў адзін бок дае ў выніку сіметрычны паклон у іншы. Чым больш красамоўны азадак, тым больш пакорлівы паклон. Павінен таксама быць вельмі ўважлівым як глыбока і каму кланяецца, таму што ў той жа час больш ці менш прама тырчыць попай да таго, хто на другім баку. Толькі, Божа мой, колькі гэта патрабуе пільнасці, увагі, каб пакланіцца каму трэба, ды так, каб адначасова не выпнуцца да каго не трэба! Але ж Аляксандр Лукашэнка, хаця як Янус, богам не ёсць. Гадоў яму не меншае. Здароўя, раней ці пазней, пачне не хапаць. Папсуецца слых або ўжо папсаваўся, таму што ён не чуе ані добразычлівай, ані ніякай крытыкі. Вочы таксама, верагодна, не тыя, і хто ведае, ці не зацягнуты ўжо перадстарэчай плеўкай катаракты. А катаракта, дамы і спадары, гэта ўсё больш распаўсюджаная хвароба. Напрыклад, у Польшчы на яе занемагло 493 тысячы людзей. Міністр аховы здароўя хоча, каб Нацыянальны фонд аховы здароўя плаціў за яе аперацыйнае выдаленне толькі тады, калі хвароба пераходзіць у вельмі прасунутую яе стадыю. Значыць, тут жа перад поўнай слепатой. Вядома, той, хто хоча, можа заплаціць за аперацыю са сваёй кішэні. Толькі што мала хто хоча. Цікава, чаму? Атрымліваецца, што на катаракту занямог міністр Арлуковіч. І што на гэта скажа ўрад? Станўў да гэтага задам. Польскі ўрадзе, не ідзі па гэтым шляху! Шляхам Януса. У той жа час наперад і назад.

**Міраслаў ГРЫКА**

Вачыма еўрапейца

# Іншае вымярэнне



Назіраючы за сёлетнім другім выпускам фестывалю «Усход культуры — Іншае вымярэнне» на кожным кроку мне было цікава ці не даводзіцца мець справу з неразуменнем ідэі мерапрыемства яго арганізатарамі, іх пасіўнасцю ў мысленні, ці з наўмыснымі правакацыямі. Асноўнымі арганізатарамі праекта былі Беластоцкі цэнтр культуры (папячыцель соцень тысяч злотых на ўсе падзеі) з непасрэднымі шэфамі гэтай установы — Бюро культуры беластоцкай Гарадской управы і ў канчатковым выніку прэзідэнтам горада Тадэвушам Трускалаўскім і яго намесніцай Рэнатай Пшыгодзкай. Да арганізацыі далучыліся шэраг іншых арганізацый і ўстаноў, а фэст выйшаў па-за межы Беластока. На працягу чатырох дзён фестывалю адбылося больш за 30 мерапрыемстваў: выстаў, канцэртаў, паказаў фільмаў, спектакляў, дэбатаў і семінараў. Праграма мерапрыемства, як і раней, асноўваецца на шасці кірунках: мастацтве, музыцы, тэатры і танцы, кіно, модзе і грамадскасці, але на гэты раз акцэнт быў пастаўлены на такія галіны, як сучаснае мастацтва, музыка і танец. Як напісалі работнікі Беластоцкага цэнтра культуры ў інфармацыі, перададзенай сродкам масавай інфармацыі на прэс-канферэнцыі, папярэджваючай падзею, на якую не была запрошана «Ніва» (!!!), у гэтым годзе «Усход» у асноўным будзе прысвечаны беларусам, бо «іх культура з'яўляецца вельмі важным грамадскім і культурным кампанентам у жыцці горада і ваяводства». Адзначана: «Усход культуры з'яўляецца праверанай і ўвесь час развіванай формай культурнага супрацоўніцтва польскіх гарадоў усходняй Польшчы і краін Усходняга партнёрства».

Я пачаў адчуваць непрыемнасць ужо пры старце імпрэзы (нягледзячы на тое, што не было запрашэння «Ніве» ад Беластоцкага цэнтра культуры на папярэджваючую прэс-канферэнцыю). Вось Бюро культуры Гарадской управы ў Беластоку сарганізавала а 17-й гадзіне прэс-канферэнцыю, інаўгуруючую першы дзень фестывалю з удзелам Малгажаты Амільяноўскай, міністр культуры і Кшыштафа Дудка, дырэктара Нацыянальнага цэнтра культуры (донары фестывалю). Гадзіну пазней у Крынках пачыналася прэзентацыя праекта: «BETH HA KNESTEH — Вялікая сінагога — Рэактывацыя» мастака сусветнага класа Міраслава Балкі. Гэта заадно быў пачатак «Усходу культуры — Іншага вымярэння». Канферэнцыя міністр і дырэктара НЦК, здаецца, былі так запланаваны, каб пішучыя пра культуру журналісты мелі невялікія шанцы паспець у Крынкі. «Гэта відавочная правакацыя» — я пачуў ад адной з вядучых журналістак па культуры ў Беластоку.

Сама міністр у Крынкі дабралася, папярэджаная раней, што яе прысутнасць там будзе вітацца, і нават сама гэтага хацела. Я спытаўся ў яе, ці не лепш было б афіцыйна пачаць фестываль і арганізаваць прэс-канферэнцыю з нагоды праекта сусветна вядомага мастака ў Крынках. Яна сказала: «Я не магу адказаць на гэтае пытанне. Мабыць, канферэнцыя была ў Беластоку таму, што журналістам бліжэй, але, як вы бачыце, што я ёсць і тут. Для мяне «Усход культуры» гэтая тая рэальнасць, якая ёсць тут, у Крынках, паміж Польшчай і нашымі суседнімі краінамі на ўсходзе, якія здабылі незалежнасць».

Раней, падчас канферэнцыі ў Беластоку, міністр адзначыла: «Варта звярнуць асаблівую ўвагу на тое, што адбываецца не толькі ў самім Беластоку, але ў Крынках і на праект Міраслава Балкі. Гэта абазначае, што Беласток мае магчымасць запрасіць мастака сусветнага класа» (Лявон Тарасэвіч разам з «Вілай Сакрата» запрасіў яго ў Крынкі — М. Х.).

Як і ў мінулым годзе, у час сёлетняга «Усходу» цяжка было не атрымаць уражання, што гэты фестываль складаўся ў асноўным з выпадковых івентаў, нават не маючых нічога супольнага з ідэяй мерапрыемства — асабліва з атрыбутам «беларускі». Не былі паказаны сувязі паміж Беластокам, Падляшшам і культурай краін Усходняга партнёрства, не кажучы ўжо пра стварэнне сабой так званай дабаўленай вартасці, то-бок, новых якасцей шляхам стварэння новых сумесных праектаў. У гэтай групе апынуліся выступы Беластоцкага лялечнага тэатра (у тым ліку «Кантата пра каву», паказаная ў палацы Браніцкіх паралельна з прэзентацыяй у Крынках), спектакль «Каралева фей» ці перфарматыўнае шоў інспіраванае драмай «Тлен» расіяніна Івана Вырыпаева, пры ўсёй павазе да мастацкага аспекту гэтых праектаў. Таксама рэкламны тэлеролік пра беластоцкі «Усход» не меў нічога падобнага да ідэі «Усходу» і цалкам да беларускага вымярэння. Чаму менавіта Юстына Стэчкоўская запрашала на гэты фэст? Нарэшце, адно з флагманскіх мерапрыемстваў фестывалю — адкрыты канцэрт «Горад добрай музыкі» (!) адбыўся без удзелу беларускіх выканаўцаў на сцэне. Побач... Юстыны Стэчкоўскай выступілі ўкраінскія зоркі, акурат у тым часе, калі свае фільмы прэзентавала выдатная беларуская дакументалістка Вольга Дашук.

Я думаю, што прыйшоў час сур'ёзна падумаць аб удакладненні формулы «Усходу культуры» і выйсці за межы івентавасці, чагосёлета былі выдатныя прыклады: праект Міраслава Балкі, выстава «Пазбаўленне» ў галерэі «Арсенал» і спадарожныя мерапрыемствы, як паказаны ў Беластоку ў рамках «Усходу» канцэрт «25 АБ-БА Аркестр».

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Захаваць драўляную архітэктуру Падляшша

**Удзельнікі Фестывалю драўлянай архітэктуры «Дрэва і сакрум — 2014», які з 16 па 23 жніўня праходзіў у Цэнтры адукацыі і прамоцыі беларускай культуры ў Шчытах-Дзенцялове, задумваліся як захаваць ад знішчэння драўляную архітэктуру Падляшша. Арганізатарамі мерапрыемства былі Звяз у карысць адукацыі і прамоцыі беларускай культуры «Шчыты» і Дэпартамент культуры і нацыянальнай спадчыны Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства, якія раней рэалізавалі праект „Падляшскі культурніцкі шлях «Дрэва і сакрум»". Рэалізатары гэтых праектаў прапануюць зберагаць ад знішчэння даўнюю драўляную архітэктуру і прапагандуюць моду на жыццё ў драўляным доме, найлепш у старым, са сваёй гісторыяй і *душой*. Гэта лепшы спосаб, каб аднавіць і выкарыстаць для пастаяннага або толькі часовага пражывання пустуючыя бацькоўскія драўляныя хаты на Падляшшы.**



Выставачны павільён з копіямі аздабленняў старых драўляных хат Падляшша, які ў мінулым годзе паставілі каля палаца Браніцкіх у Беластоку архітэктары Агнешка Кацпшак і Лукаш Шчэпановіч, быў адбудаваны як пастаянная экспазіцыя на панадворку адукацыйнага цэнтра ў Шчытах

У рамках Фестывалю драўлянай архітэктуры адбыліся даклады, майстар-класы і дыскусіі ў Цэнтры ў Шчытах, а таксама экскурсіі для ўдзельнікаў мерапрыемства па Бельшчыне і Гайнаўшчыне з мэтай азнаямлення з драўлянай архітэктурай Падляшша і яе захавальнікамі.

— Мы намагаемся разбудзіць свядомасць нашага грамадства наконт непаўторнасці і прыгожасці драўлянай архітэктуры, нашых хат з рознымі аздабленнямі, якія збудавалі нашы продкі. Нашы бацькі часта выязджалі за працай у гарады і калі пачынаюць пуставаць драўляныя дамы па вёсках, не трэба іх саромецца, толькі варта іх аднавіць і выкарыстаць. Аднак гэта трэба рабіць умела, каб не знішчыць самых прыгожых дэталяў дамоў, якія і ў мінулым сведчылі аб іх вартасці і непаўторнасці. Аб гэтым усім можна даведацца падчас нашага фестывалю, а нават здабыць некаторыя практычныя веды аб рамантаванні драўляных хат. Пастаяннымі ўдзельнікамі нашага мерапрыемства гэта выпускнікі і студэнты аддзяленняў архітэктуры вышэйшых навучальных установ у Познані, Вроцлаве ці Беластоку. На адкрытыя нашы даклады і майстар-класы прыбываюць таксама мясцовыя людзі, каб даведацца чаму варта аднавіць і захаваць бацькоўскі дом на вёсцы, а можа і перасяліцца ў яго на пастаяннае жыхарства. Наш фестываль — чарговая прамоцыя „Падляшскага культурніцкага шляху «Дрэва і сакрум»", — сказала каардынатарка фестывалю Юліта Сцепанюк з Беластока. Старшыня аб'яднання «Музей малой айчыны ў Студзіводах» Дарафей Фіёнік паказаў удзельнікам фестывалю даўнія вясковыя і мяшчанскія дамы, аднаўленыя яго музеем. Расказаў таксама пра цікавую драўляную забудову, якая была і надалей з'яўляецца гонарам Бельска-Падляшскага, звярнуў увагу на асаблівую патрэбу яе захоўвання. Арганізаваны быў таксама выезд да народнага разьбяра Уладзіміра Наўмюка ў Канюкі, дзе можна было пазнаёміцца з дэталямі аздаблення хат.

— У драўлянай архітэктуры — вялікі патэнцыял. Шмат яе захавалася. Некаторыя вёскі амаль поўнасцю захавалі драўляную забудову і гэта адрознівае наш рэгіён. На многіх старэйшых хатах — прыгожая арнаментоўка, чаго няма або амаль няма ў іншых рэгіёнах нашай краіны, — сказаў старшыня Звязу «Шчыты» Ігар Лукашук.

З дакладам пра драўлянае дэкаратыўнае мастацтва выступіў кіраўнік Беластоцкага музея вёскі Артур Гавел, які захопленымі драўлянымі ўпрыгожаннямі старых дамоў.

— Праект „Падляшскі культурніцкі шлях «Дрэва і сакрум»", які наш звяз рэалізаваў з Дэпартаментам культуры і нацыянальнай спадчыны Маршалкоўскай управы ў Беластоку, стаў стымулам арганізавання Фестывалю драўлянай архітэктуры «Дрэва і сакрум». Ад фестывалю застануцца матэрыяльныя рэзультаты, перш за ўсё выставачны павільён з аздабленнямі, узятымі з даўняй архітэктуры Падляшша. Хочам, каб гэтая інсталяцыя запрашала на „Падляшскі культурніцкі шлях «Дрэва і сакрум»", — заявіў Ігар Лукашук.

Выставачны павільён з копіямі аздабленняў старых драўляных хат, які ў мінулым годзе паставілі каля палаца Браніцкіх у Беластоку архітэктары Агнешка Кацпшак і Лукаш Шчэпановіч, быў адбудаваны ў выглядзе пастаяннай экспазіцыі на панадворку адукацыйнага цэнтра ў Шчытах.



Праграму Фестывалю драўлянай архітэктуры складалі даклады, майстар-класы і дыскусіі ў Цэнтры ў Шчытах (стаяць справа: Лукаш Плева, Януш Корбель і Юліта Сцепанюк)

— Я захапілася драўлянай архітэктурай хаты маіх дзядоў, калі яшчэ была вучаніцай сярэдняй школы. Гэта стала штуршком да пазнейшага праекта і ўзвядзення побач палаца Браніцкіх выставачнага павільёна з копіямі аздабленняў драўляных вясковых хат з розных рэгіёнаў Падляшша. Мы з Лукашам здабылі тады вартасны досвед і пазнаёміліся з цікавымі вясковымі драўлянымі дамамі. Драўлянай архітэктурай Падляшша цікавяцца таксама заможнікі і таму спадабалася нам адбудова гэтай інсталяцыі як пастаяннага выставачнага аб'екта ў Шчытах, з якім будуць маглі пазнаёміцца мясцовыя жыхары і турысты. Можа нават стане ён адукацыйным дапаможнікам для сённяшніх будаўнікоў, — сказала Агнешка Кацпшак. — Фестываль драўлянай архітэктуры — вельмі цікавая ініцыятыва, намаганне прадоўжыць жыццё традыцыйнай драўлянай архітэктуры Падляшша і распаўсюдзіць інфармацыю пра яе на ўсю Польшчу. Добра было б, каб фестываль стаў штогадовым мерапрыемствам, падчас якога маладыя архітэктары мелі б шанц рэалізаваць задачы патрэбныя мясцовым жыхарам.

Агнешка Кацпшак і Лукаш Шчэпановіч распавядалі сабраным у Шчытах пра сучаснае драўлянае будаўніцтва і магчымасці выкарыстання ў ім досведу традыцыйнай драўлянай архітэктуры.

— Вельмі важнай падчас фестывалю была дыскусія пра магчымасці выкарыстання досведу традыцыйнага драўлянага будаўніцтва Падляшша ў новым будаўніцтве. Мы не накідваем мясцовым, што павінны дакладна карыстацца прэзентаванымі намі аздабленнямі, але могуць стаць яны толькі інспірацыяй да ўпрыгожвання новых дамоў даўнімі матывамі. Добра было б, каб новыя дамы захоўвалі хаця б прапорцыі, характэрныя для мясцовай архітэктуры і мясцовага вясковага краявіду, напрыклад не будавалі па вёсках Падляшша дамоў характэрных для гуральскай або гарадской архітэктуры, якая не падыходзіць да вясковага краявіду, — гаварыў Лукаш Шчэпановіч.

— Драўляная архітэктура Падляшша вельмі нам падабаецца. Вялікім яе козырам з'яўляюцца менавіта аздабленні, выкананыя над вокнамі, на аканіцах, на вуглах хат і пад дахам. Ёсць на іх агульныя матывы, але таксама трапляюцца ўзоры характэрныя для месц, у якіх ствaральнікі аздабленняў праяўлялі ўласную ініцыятыву і рабілі іх паводле аўтарскіх праектаў, — гаварылі архітэктары Агнешка Кацпшак і Лукаш Шчэпановіч.

Падчас фестывалю з дакладамі выступілі архітэктары, этнографы і спецыялісты па драўляным будаўніцтве, прадстаўнікі беластоцкага аддзялення Аб'яднання архітэктараў РП, выкладчыкі Аддзялення архітэктуры Беластоцкага політэхнічнага інстытута і прадстаўнікі падляшскіх музеяў, у якіх паказваецца драўляная архітэктура. Асабліва важнымі для мясцовага насельніцтва былі даклады наконт кансервацыі старога драўлянага будаўніцтва, з якімі выступілі Юры Астапчук і Анна Ушынская.

— Мы знаходзімся ў адным з найменш знішчаных у Польшчы рэгіёнаў. Тут у добрым стане захавалася драўляная вясковая архітэктура, чаго амаль няма ў іншых месцах у Польшчы, — заявіў Януш Корбель з Белавежы, архітэктар па адукацыі. Выступіў ён з дакладам пра культурніцкі краявід рэгіёна Белавежскай пушчы і заахвочваў захоўваць вясковы краявід з яго прыгожай драўлянай архітэктурай. Падчас фестывалю быў прэзентаваны таксама дакументальны фільм «Памяць дома», выкананы паводле сцэнарыя і ў рэжысуры Беаты Гыжы-Чалпінскай, на якім была паказана прыгожая драўляная архітэктура рэгіёна Белавежскай пушчы. Лукаш Плева са Звязу «Шчыты» сказаў, што ў наваколлі Белавежскай пушчы паяўляецца штораз больш адрамантаваных і заселеных старых драўляных хат і гэта з'яўляецца добрым прыкладам для ўладальнікаў драўляных дамоў. На фільме можна было ўбачыць людзей на вясковых лавачках — неад'емным элеменце краявіду нашых сёл. Вясковую лаўку, з арыгінальнымі аздабленнямі, выканалі ўдзельнікі фестывалю і паставілі яе паміж агароджай адукацыйнага цэнтра ў Шчытах і дарогай. У апошні дзень фестывалю перад сабранымі выступіў беларускі фальклорны калектыў «Жэмэрва» са Студзіводаў.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

## Найпрыгажэйшыя вясковыя сядзібы

Завяршыўся гмінны кокурс „Найпрыгажэйшыя сядзібы 2014 года ў Нараўчанскай гміне". Яго арганізавалі дванаццаты раз. Ён карыстаўся і карыстаецца зараз папулярнасцю сярод жыхароў Нараўчанскай гміны.

У катэгорыі „прыхатнія агародчыкі і панадворак" два першыя раўнапраўныя месцы занялі Аляксандра Русак з Янова ды Яўгенія і Юрый Равінскія са Старога Ляўкова, два другія раўнапраўныя месцы: Малгажата і Збігнеў Краўчыкі ды Лена Харкевіч — усе яны з вёскі Плянта ды два раўнапраўныя трэція месцы: Яўген Рэент і Валянціна Германюк са Скупава.

Вылучэнні ў гэтай катэгорыі атрымалі Галіна Бароўская і Яўген Валкавыцкі з Заблотчыны ды Валянціна Куптэль з Янова.

У катэгорыі „сялянская сядзіба" два першыя раўнапраўныя месцы занялі Зіна Раманчук з Альхоўкі і Таіса Драўноўская з Міклашэва ды другое месца — Міраслава Бортнік са Свінарояў. Былі таксама два вылучэнні. Атрымалі іх Ніна Валкавыцкая з Заблотчыны ды Юліта і Анатоль Матысюкі з Семяноўкі.

Варта адзначыць, што ў гэтым конкурсе часта ўдзельнічалі, між іншым, Лена Харкевіч і Галіна Бірыцкая з Плянты, Таіса і Ян Драўноўскія з Міклашэва, Зіна Раманчук з Альхоўкі, Валянціна Германюк і Яўген Рэент са Скупава, Анатоль Матысюк з Семяноўкі, Люба і Лявон Кардашы з Тарнаполя ды Ніна Валкавыцкая, Галіна Вяжхоўская і Галена Бароўская з Заблотчыны, а таксама Міраслава Бортнік са Свінарояў.

## Выстаўка карцін Кросты

У Галерэі імя Тамары Саланевіч у Нараўцы Гайнаўскага павета можна аглелдець выстаўку карцін Дарыюша Кросты, які пастаянна пражывае ў Лондане, але ён і звязаны з Нараўчанскай гмінай. Мастак купіў сабе хату ў вёсцы Слабодка над ракою Нарвай і часта сюды прыязджае. Быў, між іншым, сёлета ў сярэдзіне лета.


*Карціны і кіраўнічка галерэі Аля Кабаць*

На яго карцінах адлюстраваны знаёмыя жыхарам Нараўчанскай гміны краявіды. Мастак намаляваў лясныя дарогі ў прыгожых закутках Белавежскай пушчы, тутэйшыя натуральныя завілістыя рэкі — Нарву і Нараўку, вёску Слабодку і яе ваколіцы ў розныя поры года.

Дарыюш Крoста меў выстаўкі сваіх мастацкіх прац у Англіі, Бельгіі, Францыі і ў Польшчы (у Варшаве, Лодзі і Нараўцы). У Нараўцы гэта яго другая выстаўка. Першую падрыхтавалі са сваёй сяброўкай таксама мастачкай, якая выехала ў Англію з вёскі Тарнопаль Нараўчанскай гміны. Было гэта тры-чатыры гады таму.

**Тэкст і фота Янкі Целушэцкага**

# XV Трыялог — Беларускі міф (ч. 2)

**Падчас сёлетніх дэбатаў на пятнаццатым «Трыялогу» ў Крынках, арганізаваным пад лозунгам «Беларускі міф», шмат месца адведзена было літаратуры і палітыцы. Некаторыя з заяўленых удзельнікаў дыскусіі, праўда, не прыехалі (легенда першай «Салідарнасці» Уладзіслаў Фрасынюк, былы прэм'ер-міністр Уладзімеж Цімашэвіч, культавы беларускі пісьменнік Уладзімер Арлоў), усё ж прысутнае моцнае прадстаўніцтва стымулявала ўдзельнікаў сабраных у Каўказскай сінагозе да разважанняў і абмеркаванняў.**

У блоку «Літаратура» прынялі ўдзел пісьменнікі Міхал Андрасюк, Анджэй Стасюк і Юры Андруховыч. Гэты апошні — украінскі паэт, пісьменнік, эсэіст, перакладчык, спявак, папярэднік новай плыні ўкраінскай паэзіі. Ён пачаў са згадкі на сцвярджэнне Міхала Андрасюка (мы на яе спасляліся ў справаздачы з «Трыялога» ў папярэднім нумары «Нівы»):

— Усе еўрапейскія народы створаны паэтамі даўняга часу, асабліва рамантызму. У Беларусі і Украіне гэта адбылося крыху пазней, на зломе XIX/XX стагоддзяў і ў пачатку XX стагоддзя. У беларускім і ўкраінскім выпадку гэта крыху спознены старт. Нашы шанцы атрымалі мы пасля распаду імперый, у выпадку Беларусі расійскай, у нашым, украінскім — расійскай і аўстравугорскай.

Анджэй Стасюк, адзін з самых папулярных польскіх пісьменнікаў, паставіў тэзіс:

— Беларусь знаходзіцца занадта блізка, так што не ставімся да яе як да асобнага быту. Я бачу Беларусь як неіснуючую краіну. Я не магу звярнуцца да беларускай літаратуры як з'явы. Няма ў Польшчы міфу беларускай літаратуры, таму яна не выдаецца. Паляк з'яўляецца ідыётам, калі справа даходзіць да гістарычнага мыслення.

Вядучы журналіст і аглядальнік Павел Смаленскі ўключыўся:

— Пасля развалу СССР у Белавежскай пушчы Беларусь не ўзнікла ў польскай свядомасці, а затым з'явіўся «халадзільнік» — экзатычны правадыр.

Анджэй Стасюк пры нагодзе прызнаўся, што ён ніколі не быў у Беларусі, яго бацька паходзіць з-пад беларуска-польскай мяжы (ад Сямятыч), і літаратура патрона цяперашніх «Трыялогаў» і стваральніка папярэдніх «Беларускіх трыялогаў» Сакрата Яновіча была — на яго думку — «на мяжы графаманства, барочная, ненатуральная, у сваім захапленні дзіцячая, быццам бы дзядзька адкрыў неверагодныя магчымасці мовы». Гэтая заява выклікала шмат спрэчак сярод многіх удзельнікаў.

Міхал Андрасюк, народжаны ў Гайнаўцы, лаўрэат літаратурнай прэміі Прэзідэнта горада Беластока, аўтар такіх славутых кніг, як «Белы конь» або «Wagon drugiej klasy»:

— На беларускае грамадства і погляд на Беларусь збоку ўплывае міф беларуса-селяніна, мужыка. Яшчэ адзін міф — партызанскі і ветэранскі перыяд Другой сусветнай вайны. Пераглядаючы беларускую літаратуру, можна зрабіць выснову, што Беларусь гэта вялікі партызанскі атрад. У Беларусі ўсе былі вялікімі пераможцамі вайны. Васіль Быкаў спрабаваў выпрастаць гэты міф, паказаць, што гэты партызан не без недахопаў. Існуе таксама міф найменш распрацаваны, міф шляхецкай Беларусі. Ён моцны ў творчасці Уладзіміра Караткевіча. Таксама ў творчасці Уладзімера Арлова гэты міф вельмі яркі.

Дадаў:

— Існуе яшчэ адзін міф, які стварыў Сакрат Яновіч, што Польшча з'яўляецца краінай дзвюх літаратур: польскай і беларускай, што беларуская меншасць у Польшчы з'яўляецца адзінай, якая стварыла сваю літаратуру тут (...). Абвяргаю міф, што беларусаў у Польшчы сотні тысяч. У перапісе тутэйшыя людзі нават кажуць, што яны беларусы, але калі спытацца ў іх, што значыць быць беларусам, не ведаюць, як адказаць (...). На польскіх сёлах сярод беларусаў таксама існуе міф пра сінявокую Беларусь, чыстую і бяспечную.

У ходзе дыскусіі былы амбасадар Польшчы ў Мінску Марыюш Машкевіч адзначыў:

— Дзейнічае міф пра польскі прыгнёт, гвалт, які быў і ёсць роблены з боку палякаў на беларусах.

У частцы, прысвечанай палітыцы, удзельнікамі дыскусіі былі гісторык праф. Алег Латышонак, аглядальнік, журналіст і праваабаронца, звязаны з непрызнаваным беларускім рэжымам Саюзам палякаў у Беларусі, аўтар кнігі «Беларусь» Анджэй Пачобут і Кшыштаф Круль, актывіст дэмакратычнай апазіцыі ў ПНР, былы дэпутат ад Канфедэрацыі незалежнай Польшчы, цяперашні грамадскі дарадца прэзідэнта Браніслава Камароўскага.

Анджэй Пачобут:

— На Захадзе пануе міф, што ў Беларусі ёсць яшчэ любоў да Аляксандра Лукашэнкі (...). Калі мы паглядзім на гісторыю Беларусі, то ўзнікненне Рэспублікі Беларусь не было вынікам барацьбы за незалежнасць, толькі, між іншым, развалу Савецкага Саюза. Адзіным вынікам волі былі выбары 1994 года, калі беларусы выбралі, і пасля аказалася, што больш выбіраць не будуць. На самой справе, для Лукашэнкі Беларусь мела стаць трамплінам. Ён думаў, што стане прэзідэнтам Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі. План быў такі, што на працягу першых двух гадоў пераходнага перыяду меў правіць Ельцын, пасля Лукашэнка. Але памятайма як выглядалі апошнія гады Ельцына. Я думаю, што антыпатыя паміж Пуціным і Лукашэнкам не вынікае з таго, што гэта непрыязнь палкоўніка КДБ да дырэктара саўгаса, але вынікае з перакананне, што гэта Лукашэнка меў быць на яго месцы. Калі не ўдалося ачоліць саюз, Лукашэнка страціў цікавасць да інтэграцыі з Расіяй, адмовіўся ад экспансіі, а засяродзіўся на Беларусі. Лукашэнка быў абраны ў пэўны момант большасцю, а пасля плошча волі стала абмяжоўвацца. Лукашэнка пачаў падкручваць гайкі і так яно пакацілася. Супраціў быў, але занадта слабы.

Алег Латышонак:

— Беларусам беларуская дзяржава звалілася на галаву, але гэта не так, як яна паявілася з ніадкуль. Беларусы здаюцца быць нейкімі нявызначанымі, не запісаліся ў памяці. Беларуская дзяржава, безумоўна, існуе, але дзяржаўныя структуры — што цяпер бачна і ва Украіне — не функцыянуюць належным чынам. Беларусь у гэтым стаўленні з'яўляецца пустой абалонкай.

Кшыштаф Круль:

— Лукашэнка гэта відавочны дыктатар, але, на шчасце пры сваіх недахопах, мае волю быць прэзідэнтам, а не губернатарам. Беларускі народ у гэтай частцы Еўропы існуе нашмат даўжэй, чым паўсюдна думаецца, таму што Вялікае Княства Літоўскае было на самой справе Беларуссю. Беларусы не малодшыя браты расіян, толькі наадварот. Яшчэ адзін міф, што Беларусь знаходзіцца паміж Польшчай і еўрапейскай Расіяй. Можна дыскутаваць, ці з'яўляецца Расія еўрапейскай краінай. Мяжа паміж Еўропай і Азіяй праходзіць праз Украіну і Беларусь, уздоўж рэк. Беларусь тут заўсёды з'яўляецца еўрапейскай краінай, памежжам Еўропы.

Алег Латышонак:

— Мяжа прабягае, аднак, цывілізацыйна. Усе, што займаюцца праблемамі цывілізацыі, размяшчаюць Беларусь на ўсходнім баку. Самы вялікі міф у тым, што Беларусь з'яўляецца еўрапейскай краінай. Беларусы кажуць, што Беларусь знаходзіцца ў Еўропе, таму што на карце з'яўляецца там, і там праходзіць цэнтр Еўропы. У духоўным сэнсе, няма там еўрапейскіх каштоўнасцей (...). Польскае мысленне пра Беларусь абцяжарана гісторыяй. Я не хачу ўлічаць запіс крыўдаў, але ад часу падзелу Рэчы Паспалітай пачаўся адыход Беларусі ад Польшчы і Беларусь ад Польшчы адступае ўсё больш і больш, а ад краін Заходняй Еўропы яшчэ больш. Таму, я лічу, што спроба ўсталяваць кантакт паміж Польшчай і Беларуссю з'яўляецца вельмі цяжкай справай.

Кшыштаф Круль:

— Гледзячы на Украіну і Беларусь, бачым, што беларусы ў лепшай грамадскай, эканамічнай і цывілізацыйнай сітуацыі, чым Украіна. Метадамі дыктатуры ўдалося абараніць актывы краіны, не дайшло да крадзяжу, як у выпадку ўкраінскіх алігархаў. Пры далейшым распадзе Расіі, які вектар абяруць беларусы, будзе залежаць ад іх.

Алег Латышонак:

— Беларускае грамадства не пасіўнае, але яно проста добра сябе адчувае ў гэтай сістэме. Пасіўнае яно толькі з еўрапейскага пункту гледжання.

Анджэй Пачобут:

— У Беларусі немагчымы ўкраінскі варыянт, а толькі беларускі. Які? Нейкі напэўна. У беларускім грамадстве існуе меркаванне, што іх уласныя сілы для змен замалыя, што працуюць большыя сілы, сусветнае закулісце.

Кшыштаф Круль:

— Украінскі поспех можа быць заразным.

Анджэй Пачобут:

— Украінскі прыклад непрывабны сёння для Беларусі, Можа будзе такім, калі Украіна пройдзе паспяховыя рэформы.

У гэтай частцы дыскусіі рэпарцёр, тэлежурналіст і журналіст Радыё Рацыя Мікола Ваўранюк адзначыў:

— Еўрапейскія палітыкі падтрымліваюць міф, што Аляксандр Лукашэнка з'яўляецца гарантам незалежнасці Беларусі. Аднак, у любы момант часу можа змяніць вектар. Маштабы карупцыі і крадзяжу ў Беларусі не меншыя, чым ва Украіне.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

# Краязнаўчы даведнік Гарадзеншчыны

Ад гарадзенскага гісторыка, краязнаўца, грамадскага актывіста, сталага аўтара тыднёвіка „Ніва” і беларускага Радыё Рацыя Уладзіміра Хільмановіча атрымаў я падарунак — яго новую кнігу „Каляндарны краязнаўчы даведнік Гарадзеншчыны (дні і гады, асобы і падзеі)”. Яна выйшла ў вядомай серыі „Гарадзенская бібліятэка” ў Гародні. Наогул, скажу шчыра, што мне заўсёды прыемна трымаць у руках новыя кнігі сваіх сяброў ці тых, хто піша пра Беларусь. Уладзімір Хільмановіч не часта выдае свае кнігі, хаця напісана ў яго шмат, задумак многа, але, як ён кажа, не паспявае ўсё зрабіць. Сапраўды, усяго не ахопіш, бо на гэта патрэбны час і здароўе. Тым не менш, Уладзімір Хільмановіч зрабіў для Гарадзеншчыны нямала. Давайце прыгадаем зробленае гэтым таленавітым чалавекам, якога я паважаю і якім ганаруся, з якім я сябрую ўжо шмат гадоў.

Уладзімір Хільмановіч у свой час быў кіраўніком шэрагу адукацыйных праектаў, сурэдактарам серыі брашур для настаўнікаў „Праз адукацыю — да грамадскай супольнасці” (выйшла 10 кніг у Шчэціне ў 2001-2006 гадах), адзін з аўтараў і рэдактараў кнігі „**Białoruskie wędrówki**”, аўтар кніг „Беларускі каляндар-даведнік на кожны дзень” (Вільня 2007) і „**Białoruski kalendarz historyczny**” (Беласток 2011), статыстычны даведнік на беларускай мове „Усе галы і пенальці фінальных частак чэмпіянатаў свету (1930-2010) і Еўропы (1960-2012)” (Гародня 2013). З 1987 года Уладзімір Хільмановіч з'яўляецца адным з актыўных дзеячаў грамадска-палітычнага руху на Беларусі, адным з заснавальнікаў першай у Заходняй Беларусі маладзёжнай грамадскай арганізацыі „Заходне-Беларускае згуртаванне моладзі”. Ён стаяў ля вытокаў стварэння Гарадзенскай асацыяцыі маладых навукоўцаў „Віт”, Гарадзенскага рэгіянальнага цэнтра інфармацыйнай падтрымкі грамадскіх ініцыятыў „Трэці сектар”, адзін з ініцыятараў стварэння Беларускага краязнаўчага таварыства імя Тодара Нарбута, быў сувыдаўцом інфармацыйна-аналітычнага бюлетэня „Свой лад” і г.д. Але, лічу, Уладзімір Хільмановіч вельмі старанна і сур'ёзна, асабліва ў апошнія гады, працуе над складаннем календароў-даведнікаў. Гэта няпростая справа. Такім сур'ёзным прафесіяналам па каляндарах-даведніках, энцыклапедычных даведніках быў Янка Саламевіч (1938-2012). Ён ведаў шмат, ён калекцыяніраваў розныя беларускія календары, даведнікі, ён марыў напісаць і выдаць кнігу пра гісторыю беларускіх календароў. Не паспеў. Я з гонарам сёння кажу, што справу Янкі Саламевіча на Гарадзеншчыне па напісанню і складанню календароў і даведнікаў працягвае Уладзімір Хільмановіч. Новая яго кніга „Каляндарны краязнаўчы даведнік Гарадзеншчыны” — як прыклад гэтаму.

У анатацыі да кнігі Уладзіміра Хільмановіча напісана, што ён цягам дваццаці гадоў збіраў і натаваў фіксаваныя даты адметных гістарычных падзей, дні нараджэння і смерці выбітных асоб, якія лёсам былі звязаныя з Гарадзеншчынай. І якія гэта асобы! Агінскія, Канстанцін Астрожскі, князь Альгерд, Наталля Арсеннева, Максім Багдановіч, Янка Брыль, Язэп Варонка, Зоська Верас, Соф'я Гальшанская, Ларыса Геніюш, Ігнат Дамейка, Язэп Драздовіч, Міхась Забэйда-Суміцкі, Вацлаў Іваноўскі, Кастусь Каліноўскі, Уладзімір Караткевіч, Аляксей Карпюк, Вацлаў Ластоўскі, Антон Луцкевіч, Міндоўг, Баляслаў Пачопка, Радзівілы, Станкевічы, Сапегі, Міхась Ткачоў, Цётка, Максім Танк і сотні іншых беларусаў, пра якіх мы павінны ведаць, памятаць, шанаваць. У каляндар увайшлі і менш вядомыя беларусы-гарадзенцы, але якія таксама пакінулі свой след у гісторыі нашай зямлі і пра іх мы павінны памятаць. Напрыклад, пра паэта і журналіста Уладзіміра Шурпу, пра даследчыка нашай літаратуры і культуры Валерыя Задаля, пра краязнаўца і педагога Уладзіміра Урбановіча, пра журналіста і гісторыка Зміцера Кісяля — пра тых, хто нядаўна жыў з намі побач, хто змагаўся за незалежнасць Беларусі. Каляндарны даведнік гарадзенскага аўтара напісаны для нас, каб мы ведалі, калі нарадзіліся знакамітыя асобы, каб адзначаць іх даты вечарамі, сустрэчамі, згадкамі, кнігамі пра іх, каб мы памяталі, калі іх не стала і ўскладалі на іх магілы кветкі і вянкі, паставілі ім помнікі і адкрылі ім мемарыяльныя шыльды. Такія краязнаўчыя даведнікі сёння павінны ляжаць у кожнага чыноўніка на сталах у кабінетах, у кожнага кіраўніка прадпрыемства ці арганізацыі, у кожнага настаўніка і на кожнай парце ў школах і ВНУ. Вось тады мы будзем ведаць сваіх вялікіх асоб, вось тады мы будзем шырока адзначаць і ўшаноўваць іх светлую памяць.

Акрамя дзён нараджэння і смерці выбітных асоб Гарадзеншчыны і тых, хто жыў на нашай зямлі, аўтар даведніка занатаваў і адметныя даты беларускай гісторыі. Напрыклад, 21 сакавіка 1927 года польскія ўлады забаранілі дзейнасць Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Каля 400 кіраўнікоў і актывістаў Грамады былі рэпрасаваны. Ці такая падзея: 26 ліпеня 1511 года Навагрудак атрымаў Магдэбургскае права. Аўтар даведніка згадвае і такія даты: 14 лістапада 1939 года Заходняя Беларусь была афіцыйна далучаная ў склад БССР. 11 жніўня 1127 года з'яўляецца першай згадкай пра Гародню ў пісьмовых крыніцах (Лаўрэнцьеўскі летапіс). А 14 снежня 1929 года польскія ўлады забаранілі на тэрыторыі Заходняй Беларусі народны гімн „Ад веку мы спалі”. У хуткім часе ён быў забаронены і ў Савецкай Беларусі...

Вядома ж, Уладзімір Хільмановіч у сваім „Каляндарным краязнаўчым даведніку Гарадзеншчыны” не змог адлюстраваць усіх важных падзей, а таксама нараджэння і смерці вялікіх людзей. У даведнік шмат асоб Гарадзеншчыны не ўвайшлі, ёсць памылкі ў гадах і месяцах нараджэння асоб. Напрыклад, згадваючы беларускага мовазнаўцу Івана (чаму Івана, ён заўсёды падпісваўся Янка?) Бялькевіча, аўтар даведніка паведамляе, што ён „аўтар слоўнікаў”. Пасля смерці Янкі Бялькевіча жонка выдала толькі адзіны, сабраны ім „Краёвы слоўнік Усходняй Магілёўшчыны”, больш слоўнікаў у Янкі Бялькевіча не было. Згадваючы беларускага археолага і краязнаўцу, заснавальніка Слонімскага раённага краязнаўчага музея Язэпа Стаброўскага, Уладзімір Хільмановіч паведамляе, што ён нарадзіўся ў маёнтку Крупляны на Навагрудчыне. Ды не, Язэп Стаброўскі нарадзіўся ў Слоніме. А вось яго сваяк мастак Казімір Стаброўскі (прозвішча якога, на жаль, адсутнічае ў даведніку) нарадзіўся ў маёнтку Крупляны цяперашняга Карэліцкага раёна. Грамадскі і рэлігійны дзеяч на эміграцыі Аляксандр Асіпчык нарадзіўся ў вёсцы Пляшкі Слонімскага павета, але не ў Слоніме, як піша аўтар даведніка. Не згадваецца ў выданні Уладзіміра Хільмановіча і Аляксандр Жукоўскі — слонімскі краязнавец, гісторык, педагог, заснавальнік Народнага музея СШ № 4 г. Слоніма. Няма ў даведніку і згадкі пра беларускага паэта Язэпа Вількоўшчыка (Вількоўскага) (1898-1984), які шмат друкаваўся ў заходнебеларускіх выданнях, найперш у часопісе „Шлях моладзі”. Не згадвае Уладзімір Хільмановіч і польскую пісьменніцу Марыю Родзевіч (1863-1944), якая нарадзілася ў вёсцы Пянюга на Зэльвеншчыне і якая была блізкай сваячкай беларускага пісьменніка Леапольда Родзевіча, аўтара вядомага жарту „Збянтэжаны Саўка”, не згадваецца і беларускі пісьменнік і гісторык з вёскі Бародзічы Зэльвенскага раёна Міхаіл Іоська — аўтар шматлікіх гістарычных кніг, сярод якіх і кнігі „Мікалай Судзілоўскі-Русель” і г.д.

Падобны краязнаўчы даведнік, які падрыхтаваў Уладзімір Хільмановіч, можа шмат разоў перавыдавацца, дапаўняцца, аднаўляцца. Таму што адразу ў адно выданне ўсяго не ўключыш, не зафіксуеш, не прыгадаеш. Але верыцца, што нялёгкая праца гарадзенскага руплīўца будзе працягвацца і будуць з'яўляцца новыя дапоўненыя перавыданні, якія нам сёння вельмі патрэбныя.

**Сяргей ЧЫГРЫН**




# Сакольскія збожжавыя ночы

Чэргі сялян пад складам аддзела Падляшскіх збожжавых прадпрыемстваў у Саколцы быццам жыўцом узятыя з недалёкага пагранічнага пераходу ў Кузніцы-Беластоцкай. Спярша нашы земляробы ў спякоце ад світанку да світанку псуюць пазваночнікі, косячы і перасыпваючы тоны зярна, а потым, каб прадаць збожжа, качуюць па начах у нявыгадных трактарах пад складам ПЗП.

Пры загружаных збожжам прычэпах, у асноўным, раздаюцца наракані на павольную абслугу, нізкую цану і кепскія перспектывы.

Ян Баравік прывёз чатыры тоны зерня. Чакае з 5:30 раніцы. Спадзяецца што да 16-й справіцца з усім.

— 400 злотых за тону збожжа гэта рашуча недастаткова. Каб было рэнтабельна, павінны яе павысіць да 600 злотых, — сцвярджае.

Пенсіянер з Куроўшчыны Юзэф Бялкоўскі вартуе з 21:00 папярэдняга вечара. Прыехаў сюды замяняючы перагружанага гаспадарскімі абавязкамі сына.

— Мушу стаяць, няма іншага выхаду. Прымаць пачынаюць толькі з 8-й раніцы, пакуль збяруць узор на аналіз, усё зацягваецца. Апошнім разам мяне абслугоўвалі дзве гадзіны. Людзі выходзяць з цярпення. Кожны хоча паспець, невядома як доўга будуць яшчэ гэты авёс прымаць. Што тады зробім?

— Кепская цана, таму што надта шмат збожжа прывозім з-за граніцы, — мяркуюць маладыя земляробы з Крынак.

— Разам з бацькам прадаем 10 тон зерня ў год, — кажа Тамаш з Саколкі. — Адчуваю сябе ашуканым нашай дзяржавай. Але што мне застаецца? Хіба толькі збіраць бляшанкі з-пад піва.

А што на тэму збожжавых начэй думае кіраўніцтва склада?

Андрэй Марцінчык — кіраўнік скупкі ў Аддзеле Падляшскіх збожжавых прадпрыемстваў у Саколцы:

— Тлумачым ім, каб не сталі па начах, гэта зусім недарэчна. Яны робяць сабе адпачынак пад складам. Тут абменьваюцца інфармацыяй, даведваюцца як сеяць, араць, дзе танна бензін дастаць. Працую па меры магчымасцей. У апошні чацвер скупляў да 4-й раніцы. У гэтым годзе надвор'е было надта спрыяльным. Нашы земляробы ў асноўным працавалі днямі і начамі, уключна з нядзелямі. Я так запоўніў склад, што быў вымушаны разгрузіць яго, каб зрабіць месца на чарговую скупку. Мы тут адзіныя, прымаем выключна якаснае зерне. На працягу некалькіх гадоў я паспеў паклапацiцца, каб мясцовыя земляробы здавалі чысты, апырсканы, без шкоднікаў тавар. Калі ідзе пра цану, яе фармуе рынак. Асабіста стараюся, каб было як найлепш. Цяпер маем на 50% больш аўса ў параўнанні з мінулым годам. Брута плацім 400 злотых за тону аўса. Затыкаем нашы рэзервуары да максімуму. Трэба зразумець, што ёсць нейкі ліміт.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**





Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі












**БЕЛАСТОК, 29 жніўня 2014 г.**

**Плошча пры Беластоцкім асяродку культуры**





Фота Адама ПАЎЛОЎСКАГА

# Па грыбы



Ліпеньскае сонца прачыналася пасля кароткай ночы. Неба заружавела на ўсходзе і ледзь прыкметныя хмурынкі азалаціліся на краях. На паплавы выліўся густы бела-сівы туман. Ён ахутаў сабой дамы, платы, дрэвы і яны здаваліся ў зарыве будзячагася дня казачным марывам.

Некалькі дзён ішлі цёплыя дажджы, а ночы сталі парныя-парныя, і калі мы, сябры выходзілі на світанні ў лес, здаецца, бачылі, як, варушачы лясную трухласць, увачавідкі лезлі з зямлі баравікі, падасінавікі, бабкі. Я і Міхась вельмі любілі хадзіць у лес па грыбы. Мы палюбілі лес і ведалі грыбныя месцы тут на ўзгрыўку густога змешанага лесу, у якім пераважаў малады асіннік, а далей узвышаліся меднастволыя стромкія сосны, магутныя ёлкі і сям-там пакідаліся беласнежныя ствалы бярозак. Грыбы трапляліся нам часта, часцей да бярозак туліліся галоўкі цаглянага колеру падбярозавікаў ці падасінавікаў, другіх грыбоў пасля баравікоў-праўдзіўкаў.

Сонца даўно ўжо азалаціла вяршыні дрэў, але тут углыб яно прабіваецца недзе з боку і быццам знізу. Яго не відаць. Толькі ясныя палоскі кранаюць шэрыя пні і расу на траве. У лесе прыемна дыхаць пахам смалістых сосен, пахам грыбоў, верасоў.

Напоўніўшы кошыкі грыбамі, мы выйшлі на ўзлессе адпачыць перад тым, як вярнуцца дадому.

Мы ўселіся на пні і вырашылі падсілкавацца. І тут сябра Міхась успомніў расказ сваёй маці. Можа Міхась і не варочаўся б думкамі дахаты, калі б не хворая маці. Ён шкадаваў яе. Маці была заўсёды добрая. Калі яшчэ магла хадзіць, не раз, бывала, укіне ў кошычак свежанькую белую булачку ці пірог з сырам. Цяпер занемагла... і міжвольна Міхась паварочваецца вачыма да кошыка, што стаіць ля яго нагі.

— Маці мая, калі была яшчэ светлавалосай, з сінімі вачыма дзяўчынай, ганарылася, што магла дапамагчы маме, бо часам у нястачы прадавала сушаныя грыбы на соль і хлеб. Аднойчы мама ішла з кошычкам баравікоў дахаты і цешылася імі. Яшчэ яна не паспела выбрацца з лесу, як яе злавіў ляснік. Тады трэба было мець дазвол на збіранне грыбоў — выкуплены білет. А дзе ж яна магла яго мець! Жылі яны і так у галадзе, нястачы...

Дзяўчына не змагла ўцячы. Ляснік моцна схапіў яе за касу з уплеценымі васількамі і пачаў біць па твары, круціць за вушы, разбіў на кавалачкі кошык і патаптаў грыбы. Дзяўчына адчула ўсёй сваёй маладой гарачай душой несправядлівасць на свеце.

Яна ішла дадому на гэты раз з пустымі рукамі, а яе чакала маці і галодныя браты. Ёй балела галава, ад болю гарэлі чырванню вушы. На душы закаранілася невыказная крыўда, жаль... У яе галаве не магло змясціцца тое, як можна знішчыць па-варварску яе працу і за гэта яшчэ моцна збіць!

Гэтая несправядлівасць у душы маёй маці асталася на ўсё жыццё.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# Кошчыны імяніны



Фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА

Сёння слаўная гасціна:
кошкі Муркі імяніны!
Панеслася вестка ў даль:
будуць госці, будзе баль!
Узяў кот Мурзік сваіх дзетак,
напярэдак сам з букетам
вітаць кошачку ідзе,
дружна ўсіх з сабой вядзе.
Сваю кошачку: мяў-мяў! —
прывітаў ён першы,
кацяняткі ж па чарзе
гаварылі вершы.
Баль быў надта пышны:
усім было па мышцы,
сыра па кусочку,
сала па кусочку,
малачко пілі і квас,
пасля памаленьку
танцавалі модны вальс,
урэшце польку-еньку,
аж Мурачцы коцік
наступіў на хвосцік.
Коцік, коцік, уважай,
больш на хвост
не наступай,
лепш падбрыкні ножкай,
закружыся трошка:
гопса-гайса, дзыгу-брыку,
каб быў танец пад музыку!

**Ларыса ГЕНІЮШ**

# Вершы Віктара Шведа

## Як правёў лета?

— Скажы нам Яраслаў
Мо гэта не сакрэтам,
Як ты адпачываў
У мінулае лета?

— Успамінаць дык жах
Што так дрэнна — шкадую.
Першую частку ў гарах,
А ў гіпсе другую.

## Як пазнаеце дзетак?

— Скажы нам Агата,
Як пазнаеце блізняты,
Якія ні на ёту
Не розныя істоты?

— Мы пазнаем Андрэя,
Да сотні лічыць умее.
А брат яго, Колька,
Да дваццаці толькі.

## Чаму?

— Тата, чаму маладыя
Цалуюцца на вяселлі?
— Гэта, сыночак, стыхія,
Каб з пачуццём ўсе глядзелі.

Падумай, нават баксёры
Перад змаганнем у абдымках,
Каб гледачы ў гуморы
Зрабілі цёплыя здымкі.

## Бабулі музей

Янка бачыць, што бабуля,
Шустрая, як штодзень.
Запытаў сваю матулю:
Куды яна выходзіць?

— У музей ідзе нябога,
Там нейкая нагода.
Адазваўся Ясь з трывогай
— А ці не назаўсёды?

# Польска-беларуская крыжаванка № 36

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 32:

Мяжа, боб, маг, напой, каліна, калыханка, гусак, мацак, як. Марка, кум, каса, палац, лыка. жаніх, ганак, пан, буйвал.

Kłamstwo
Fundacja
Wybuch
Szkoła
Szum
Bard
Alan
Moda
Niania
Banan
Kalendarz
Klan, rodzina
Rano
Show

Марыя САШКА

# ЧАРОМУХА

Віцюсь пад'ехаў пад хату Старчукоў. Там стаялі Франак Палянскі, Пецька Васілюк і яна, Старчучка. Віцюсь спытаў: „Куды едзеце? Франак на фордзі? Мяне возьмеце ў рэйд-сафары?..” Дзяўчына спытала: „На трэцяга пішашся, пане Янкоўскі? Вось, містэр Палянскі на шпацыр мяне заве-кліча, на ягаднік прапануе, у Альхоўскі кут, матрас — дадаў — надуўны мае, мякка будзе!.. Ехаць, кажу я, з кіламетр-два, давай да мяне, тут бліжэй, у фасолю ці капусту...” — І яна ўдарыла Франка па твары... Той сцярпеў, не адзываўся, выходзіць — такое не першы раз... „Ну, Віцюсь, далучыш? У мае палацы-садагарод пойдзеш? Па дарозе — каб хутчэй было — я сама майткі здыму!.. Маўчыце ўсе!?. Замуравала вас, ахвотнікі, смельчакі? Анямелі?.. Вось, яшчэ адзін трэцца, Ванёк Зубрыцкі, дасцігае; і Міхась Бароўскі, бачыце, бяжыць да статку, аж гікае-прагне; бярыцеся за рукі, пайшлі **gruppen sex** весяла саставім-пакажам!..

Такой Старчучкі ніхто з іх не знаў, не ведаў: дай ёй тапор-сякеру-меч-касу — парубае, пачвяртуе, пасоліць!.. Трэба было бачыць яе вочы, калі яна — як ашалелы конь-мустанг з прэрыі храпы раздула, словы кінула: „Пайшлі вы, кабяліны, цечка сабачая!.. Ах, Віцюсь-Віцёк-пане Янкоўскі, няўжо і ты сюды наровіш-пхаешся? У табун гэткі бугаёў недакормленых? Чаго ты ў такі час прыплёнтаўся, ці ж ты такі як гэтыя патрэбнікі-спадніцнікі?.. Адыдзі, Віцюсь, ад грэху, запускай свой матор у Беласток, не табе ў гэтай валачбе месца, сярод пасвісцёльнікаў!..

А вы ўсе тут запомніце, каб больш я вас не таўкла-не ганяла! Як саранчу стадную, паскудную, што ўсё зялёнае-пекнае, мілае — на сваёй дарозе пажырае-малоціць, у пустыню мяняе!.. Мой панок-каралевіч выбраны, чуеце, калі прыйдзе-адважыцца сам, з ласкаю ўсміхнецца — бо ён тут блізка нас ходзіць ды не асмельваецца, бачу, і ў не сваё пападае-ўліпае, замест к-р-ы-к-н-у-ць „кахаю! — гэта я!..” То я яго так прыгарну, раскалышу: цёпленька-пяшчотна-каханенька, на сябе палажу — не ўстыдаючыся (бо хто кахання сароміцца?), прытулю, абцалую ўсяго, ад ног да галавы, валасамі сваімі метровымі чорнымі, як прасцінай ядвабнай-адзіялам пуховым прыкрыю, ад вакна адкрытага, што дурманіць язмінам белым, каб зімна яму не было!.. Чулі вы такое, пра спадніцу-майткі на пяць хвілін думаючы?.. І не лезьце вы да мяне больш у вокны з матрасамі, калі не ўмееце па-сакалінаму лятаць па маім садзе-агародзе, крыллямі любоўна трапятаць, бо не часок-гадзіначка вячэрняя-начная абыякая мне патрэбна, а абдымка ласкавая, што дух запрэ, ды цалаванне сонечнае, калі я спаць лягу, калі я абед гатовіць буду, бульбу скробаць-чысціць, пажыткі-посуд-пасцель мыць!.. **Jak widzę, t-a-k-i-ch chętnych nie ma do mnie, pośród was — panowie oficerowie**, вам бы толькі руку пад спадніцу ўсадзіць, абмацаць, ды хвост адкінуць, безустыднікі!.. Людзей добрых адганяеце-пужаеце, вось і Віцюсь пры вас нямовай стаў, захліснуўся!..”

І яна пайшла, рукой махнула, слязу абцёрла, заспявала: **„nie dla mnie sznur samochodów, niech dalej jadą one wprost przed siebie!...”**

* * *

Да Янкоўскіх, што пад бярозамі, каштанам вялікім і рабінамі, якіх тут заўсёды пад восень з чырвонымі ягадамі акіян-мора цэлае, убегла заплаканая Старчучка. „Ты што, дзяўчына, хто зноў абідзіў? Мы ж знаем — усё чапляюцца, а ты іх батагом хлешчаш! — спытала цётка Верка. „Цёценька, гэта я сёння сама сябе, пры аказіі, дроў накалола-наламала-нарубала! Гэта я абідзіла! Ён са слязамі, я ж бачыла, а затрымаць не магла — не выйшла — не магла здрадзіцца, дурная варона! Ён адышоў — як шчэ й на мяне не плюнуў?.. Прыйшла да вас выплакацца, бо куды пайду я, адзінокая, хто зразумее як вы абое?.. Адбою ад кныроў гэтых, паскудаў няма, мілыя, бычкі на а-д-н-о пруць-ласяцца, на матрас у лес завуць — ляці толькі, бо адна я, думаеце, які спрос-суд потым будзе?.. Хто за сірату заступіцца?..

А я, цёцю-дзядзю, колькі ўжо часу аднага сабе намеціла, свеціка майго выбранага, ды ўсё — а ён, як кветка, далікатны — калі загляне да мяне то пападзе дзе мы гурбой скрынкі-пакункі на самаходы грузім (праўда, дапаможа, але тады маўчыць, а і я языка ў губах забываю), або, часцей за ўсё якась што я на чарговым „ухажоры” вярхом еду!.. І сёння ж, Госпадзі пакарай мяне, як жа я яго, нявіннага, незнарок, не яго спецыяльна, да ўсіх гарланячы, словам паскудным да кампаніі сабачай прыручыла-лясканула-шмарганула-абхлястала!.. Ён толькі пабляднеў, адышоў моўчкі, ад'ехаў, мой панічок!..” — „Ну, ты дзеўка, сама і адважся цяпер, раз смялейшая, справу наладзь, час знайдзі, заўсёды смялейшыя выйграваць могуць!” — сказаў дзядзька Антон. — „Дый усё, бачыце, пабач ватажнікі, як толькі я-м-у скажаш?..” — „Да цябе гавару! Вечарком прыйдзі — сама буду!” — „Ён не з такіх, дый шчэ — ён наўкругі к-р-а-с-а, а пра мяне сяло здаўна спявае — „некрасівая”, дзе ж тут **„pójdź kwiatku do kwiatka”**? Заб'юся я, відна! У Харошчу адвязуць, рукавы завяжуць!..

Ну, нагаварылася я, набунялася-насморкалася я ў вас, выбачайце, як перад бацькамі, парайце, як быць мне, дурніцы! На ўсё гэта ў мяне ўжо і ўстрыманкі няма, бракуе!.. Выганяйце цяпер мяне ці біце паленам!” — яна кінулася цалаваць іхнія рукі. — „Гэта Віцюсь в-а-ш! Такі выпадак!”

І яна кінулася ў дзверы!.. Знікла!... Не ўспелі Янкоўскія слова ўставіць, дагадаліся спачатку: „Нуй добра, Госпадзі, і мы за гэткае здаўна паміж намі!” А дзяўчыны не стала... „Такія, вось, маці мая Верачка, у нас прадшлюбныя катлеты, такі кампот!.. А як нам цяпер да Віцюся нашага падабрацца? Ці радасць у нас у хаце будзе, ці бяда-бітва народаў, га, маці?..”

* * *

„О-о, як добра, шчасце якое, сыночак, што ты зноў прыехаў, Віцюсь!...” — „Водпуск я ўзяў, Мам-Тат, бо трэба мне справу рашыць, нельга болей!..” — „І мы, сынку, пагаварыць даўно хочам, ды не ведаем як да цябе прыступіць, не раззлаваць?...” — „Парайце мне, мілыя, як дарогу знайсці?.. Думаў, складзецца, тады скажу, а тут больш путаецца, чым ладзіцца, я й туды, я й сюды, прамах усё якісь дурнаваты, бо я і не вінавен!.. Даўно бачу-ведаю, адружыцца мне й пара, яна дбайная, працавітая — бо я пра дзяўчыну, і школа ёсць, і паводзіць яна сябе — адно заглядзенне, і пабадаецца мне — не то, што мястовыя сіксы-лялькі-забаўкі надуўныя!.. Выберуся сказаць — ёй прызнацца — яна якогасьці валацугу-прыблудніка ў той час прэ-гоніць!.. Сёння, раніцай, стаяць гурбою, я пад „дождж” пападаю, яна якраз Франка Палянскага цвікае-ламоча-мордахлешча, не з першага разу відавочна; я самаходам, ды з дуру, аказваецца, у агонь лезу, пытаюся, а там Франкаў форд стаіць — „мяне возьмеце, калі ў рэйд Манака — Дакар едзеце?..” Глянула тады на мяне як бы саган кіпятку выліла! Сказала: „Думала, хоць ты адзін чысты!..” Што там потым гаварылася, што тварылася! Гэта зноў фагасы каля яе затанцавалі, а яна й мяне ў іх шарэнгу запісала!”

„Сыночак, ды й мы з бацькам даўно пра тое самае, пра М-і-с-ь-к-у! Старчучку! Амаль сто гадоў сказаць табе хацелі, цябе на размову ловім, ды ўсё з апаскай, што накрычыш на нас, ты ж у нас маўклівы, не прызнаешся, ты ж інжынер мястовы, а мы пра вясковую; суседзі нам паўтараюць — за табой табун-стая-гарэм беластоцкі носіцца...” — „Ды нікога ў мяне няма, гэта козы-авечкі на мой самаход, чырвоны „поршэ” зарацца, бегаюць... Другая ў мяне думка здаўна, а як падысці — не ведаю!..” — „Ну, што тут, сыне, хвалявацца-баяцца? Што спаткацца не ўдаецца? Што вечароў яшчэ разам не праводзіш? Што тут пра яе кажуць „некрасівая”? Ты ў душу ёй заглянуў — бачым, гэта і ёсць увесь „цымэс”. Віцюсь, жонкай у хаце будзе, не падсцілкай для таварышаў ці незнаёмых!.. Ты ж казаў мне, з год таму назад: мне б т-а-к-у-ю супражку, татка, што гонар свой лапатай нават адваюе-зберажэ; памятаеш, тады Казік Цывончык уначы ў акно яе палез, а Міколка Ляўчук быў дадаў: „Гэта яна — чалавека кусок, людзі, не мая Хрысціна — лялька Барбі! Чаму я такую паньцю ў жыцці прамаргаў, за пекнатой ганяючыся?!.” Ну, браце-сынок, стройся, наша табе з маці бласлаўленне!.. Дзень-два — ты да яе сур'ёзна пастукай, ласкай вазьмі — яна пераляканая цяпер гэтымі буйваламі, недаверлівай стала — ты смела націскай, твая будзе, думаем (яны пра спатканне з Міськай не сказалі), варта яна заходу, другой такой, ды сваёй і па веры нашай, у вакрузе не бачна!.. А і яна, спадзяемся, бо яе з маленькосці знаем, вочы мае, хто і які ты — бачыць і ацаняць умее; чаго табе бракуе, хоць ты і сын наш? — спытаем голасна!”

* * *

„Салют са ста арудзій! П-а-е-х-а-л-і мае рыбы! — заклапаціўся Віцюсь. — Хто гэта там галосіць на ўсю філармонію?!. Там, гэта, з гэтага левага берагу рэчкі не відна, ён нізкі; дзесь, мабыць, каля заводзішча-возера, што засталося ад старога карыта-рэчышча з многасцю-дываном цэлым жоўта-бела-чырвона-сіняватых гарлачыкаў, якія калісь персы-індыйцы назвалі ненуфарамі-лілеямі воднымі-лотасамі-гранжэлямі, як у нас кажуць, а якіх даўнія рымляне менавалі „німфамі”... Хто іх забудзе пасля фільма чароўнага „Дні і ночы”, дзе Талібоскі для сваёй Барбары цэлае іх бярэмя пад ногі паклаў-ахвяраваў з любоўю вялікай, што ў бялюсенькім касцюме па возеры бродзіў, сам як кветкі тыя цудоўныя прыгожыя... Эх, любоў-каханне, пад усімі шыротамі цуд-ласка-велічнасць-неспадзяванасць!..”

Хто ж гэта пры нашых ненуфарах, цяпер так галасна каханне славіць?.. Віцёк падумаў голасна: „А ён?” Перад усім чэсным народам дзяўчыну сваю зможа, як Талібоскі, абрадаваць, квецем абсыпаць? Жарптаху сваю ўцешыць?.. „Не выходзіць нешта смеласць мая, у дурацкія гісторыі пападае, не ідзе на прапалую, рота не адкрывае, „прагоніць” — баіцца, „мяцёлку возьме”? Не, наперад! А то адляціць з другім мая зязюля, вясёлка рознакаляровая знікне-рассыплецца! Пан або прапаў, кажуць — адвага гарады бярэ! Мо гэта яна м-я-н-е менавіта выглядае-чакае?.. Ды ж не праз акно, як Казік, ночку, на тапчан, на забаву!.. Вазьму заўтра ненуфары, дый у дзверы ціха, як у фільме, з каханнем, спакойна-мірна ў дзверы пастукаю, скажу — „кахаю”, спытаю: „мілы я ці не любіш?”, тады адыду-адплыву ў даль шырокую, а ты царэвіча Іванка на каньку-гарбуньку і выглядай!.. А што па Франку рукі яе — за матраса — прайшліся — я ж не з ложкам-пярынай пад хату яе пад'еду пагуляць, у пушчу паклікаць, а з намерам сур'ёзным, мілым, сказ павяду не пра спадніцу-стрынгі!..”

Удалі спяваў дзявочы голас, да рэчкі прыбліжаўся, якась знаёмы, мяккі як шоўк, гэткі вялюр гладкі, прыемны; хто ў нас т-а-к выводзіць-стараецца? З рэхам лугавым-рачным у дуэт уступае?.. Каб пабачыць спявачку, Віцюсь устаў з кукішак, н-я-в-і-д-н-а! Той правы бераг завысокі, а луг прасторны пераходзіць, на вёрсты цягнецца; гэты, левы — нізкі, пясчаны-пляжавы, той як сцяна стаіць, з дзясяткамі-сотнямі нарак-гнёздачак пташак чорных, як ластавачкі, стрыжыкаў, якія статкамі лётаюць, як іх сястрыцы свіргочуць...

Голас бліжэй падыходзіў... „Гляджу ў палі прасторныя, на далі залацістыя, а бачу бровы чорныя, вачушкі твае чыстыя; у кустах ручча журчанне, трава вадой любуецца, а сэрца жджэ свідання, адным табой хвалюецца...”

„...В-і ц-ю-с-ь!!!” На беразе стаяла дзяўчына, я-н-а!!! „А я гарланю на ўсю катушку, рыбы твае разагнала, не злуй, золатка, а?.. Бо хваціць баба волі жменьку, бачыш, і пойдзе ў прысядкі, па лузе-полі-беразе, па рэчцы!.. Ды ты не а-д-з-я-в-а-й-с-я, Віцюсь!” — засмяялася яна — (праўда ж, а каб цябе! сляпак адзін! Так ён пры ёй атарапеў, што забыўся — ён г-о-л-ы-м стаяў над ракой, рыбачыў!) — Д-а-й падзіўлюся!.. П-р-ы-г-о-ж-ы ты, Янкоўскі! — кінула яна, — стан як у Тытона-царэвіча траянскага, сына Лаомедонтавага. Царэвіча ў мужы ўзяла сабе Зарніца — багіня бліскавіцы, што без грымотаў-гукаў нераз на небе ззяе... З ім памылка страшная выйшла: Зарніца выманіла ў Зеўса для яго несмяротнасць, але ў спешцы забыла выпрасіць вечную красу-маладосць; ён састарыўся, здзіцянеў, трэба было замыкаць яго ў палацы; ён кахаў музыку і яна перамяніла яго ў цвыркуна, каб ён на сваіх доўгіх зялёных ножках-скрыпачках іграў свае песні на лугах алімпійскіх, патомкі якога, у тысячах, і на нашых палях цвіркочуць-спяваюць-танцуюць... Бачыш, колькі я пра цябе знаю-ведаю, цвыркун ты мой лугавы, музыканцік радасны!..” — „А ты чаго б мне ў Зеўса папрасіла, Міська?..” — „Для цябе — у-с-я-г-о б узяла! Яшчэ болей нават, што б знайшла ў іншых багоў на гары іх! Як Праметэй раз яшчэ агонь выкрала б, табе аднаму б а-д-д-а-л-а! Вось і прызнанне маё, Віцюсь, бо гэта т-о-е! — з чым я ўсе гады жыву-хаджу, а ты не прыходзіш, што т-в-а-ё!.. Мы з табой абое-рабое, Віцюсь, як журавель і чапля, **„co to chodzą jedną drogą, ale pobrać się nie mogą”**; я і іншых — як бандытка — б'ю, ганяю, а ты, нясмелы, бачком ходзіш-сланяешся, упрамок не йдзеш ужо колькі часу! Няўжо я такая п-а-к-р-а-к-а?..”

Гэта спявала Міська, што жыве ў нашым сяле ў доме з сінімі вокнамі пра вязебаабабе нашым — колькі гадоў яму? — які яшчэ даваенны час памятае... Гэта прыйшла Міська-Манечка-Маруся, дзіўнае ў сяле стварэнне з небывалай ні ў каго тут большай чорнай касою. Яна тут жыве, агародам-фермай вялікай з агароднінай валодае-займаецца-ўпраўляецца... Гэта з ёю Віцюсь загаварыў быў учора, калі яна Франка лупцавала... Ён прыпомніў яшчэ, як, адноўкі, хлопцы, у жартах-смешках, але і сур'ёзна — бо было такое — Місьцы прапанавалі ўдзел у конкурсе „міс мокрай кашулінкі”, над рэчкай, бо статная, бо грудзі **„światowe, jak u Sofii Loren na ekranie”**; як яна весела то аднеквалася - то згаджалася, аж зубы белізной бліскаталі: „Калі Віцюсь будзе шэфам журы — хоць зараз, у секунду!” — „Возьмем? Ага — часу, Янкоўскі, не маеш! Бо гэта як сірата да танца, у абэрак ці вальс, то аркестр ідзе на вячэру?!.”

„Гэй, галаварэзы, які яшчэ вам сігнал даваць, апрача малацілкі, калі ў вокны мае лезеце-прэцеся? Вы б мне не кашульку, а галоўную ролю далі, як багіні Гебе, дачцэ Зеўса і Геры, жонцы Геракла, калі яго багі занеслі на Алімп, дзе яна нектар-асалоду дзяліла-раздавала, любоўю сваёй цешылася... Так і я гэтак, хоць з завязанымі вачыма, за голасам мілым, за Гераклам сваім пайду, калі ён прыйдзе да мяне, на ж-ы-ц-ц-ё і на с-м-е-р-ць, неразлучна!..”

Міська... Жанілі яе няраз, але замуж яна не ішла, адмаўлялася, усё к-а-г-о-сь выглядала-чакала, часта з боем-вайною... „Навошта мне такая м-а-р-о-к-а некаханая, — смяялася яна, — гэткі хамут конскі, ярмо валовае-абрыдлае, чужое, путы цялячыя? Путацца гэткі будзе, няласкавы-нелюбімы, пад нагамі, **„rządzić z komendami „padnij-powstań”**, праўда ж, суседачкі?.. Я максімалістка, усё або нішто, да свабоды прывыкла, але аддам яе ў час, гэй — у секунду! — калі мой ясны сокал, л-ю-б-і-м-ы! — сядзе ў маім агародзе на яблыні ды м-а-ю песню засвішча-заспявае!.. Бо я хачу, каб каханне было без меры, я не п-я-ц-і-м-і-н-у-т-к-а!..”

(канец першай часткі)

# ВАЙНА І ЧЫГУНКА (ч. VI)

Успаміны **Уладзіміра КЛІМЮКА**, народжанага 18 лістапада 1923 года ў Цісоўцы, сына Іосіфа і Анастасіі.

Немцы, адступаючы перад наступленнем саветаў, нішчылі чыгуначныя аб'екты. Апошні іх поезд вёз жаўнераў, якія мінамі ўзрывалі чыгуначныя масты, вакзалы ды кожную рэйку рвалі папалам. Пуць рабіўся непрыгодным, што тармазіла наступленне саветаў, якія тады мусілі карыстацца дарогамі, якія таксама былі мініраваны. Савецкія сапёры хутка пабудавалі чыгуначныя драўляныя масты на палях цераз Нарву і Нараўку. Побач чыгуначнага моста на Нараўцы каля Сушчага Барка пабудавалі яны таксама дарожны мост, па якім ехаў конны ваенны табар і праходзіла пяхота за першай лініяй наступаючага фронту. Некалькі месяцаў пасля вызвалення нашых зямель, у 1945 годзе цягнікі рухаліся са скорасцю да сарака, а па мастах — да пяці кіламетраў у гадзіну; перад апошнімі стаялі асцерагальныя знакі. Помню, як я ехаў пасажырскім поездам у Седльцы, то мост на Бугу, даўжынёй каля ста метраў, так хістаўся, што пасажыры баяліся, каб ён дзе не перакуліўся, калі б нейкі элемент моста не вытрымаў, але такіх выпадкаў не было.

Працу на чыгунцы пачаў я 1 жніўня 1944 года звычайным рабочым. Маім пуцявым майстрам быў Арсень Данілецкі з Падляўкоўя, меў ён пад сабою звыш дзесяці рабочых на адрэзак каля васьмі кіламетраў. Было ў нас многа работы — падмена перагнілых шпал, падмена пашкоджаных рэек, рэгуліроўка пуці, праполка пуцявога палатна з пустазелля, утрыманне пераездаў, высечка кустоў пры пуцях, якія маглі абмяжоўваць бачнасць, ачыстка асушальных равоў і пратокаў, а зімою змаганне са снегам. Для мяне гэтая работа, у параўнанні з тым, што давялося спазнаць у Германіі, была не надта цяжкай. Чалавек мог выспацца ў хатнім цяпле і не галадаў, хлеба было дастаткова, а да хлеба былі мясныя і малочныя прадукты. Пуцявы майстар і рабочыя падлягалі загадчыку дарожнага адрэзка Нараўка, які нас прымаў на працу. Спярша кіраваў нас на медыцынскае абследаванне прыгоднасці да працы. Чыгуначны лекар правяраў агульны стан здароўя, асабліва зрок і слых, бо чыгуначнікі і іхняе начальства павінны былі мець іх беззаганнымі. Чыгуначнік мусіў чуць і бачыць здалёк над'язджаючы пасажырскі ці таварны поезд або адзінокі лакаматыў, каб сысці ад рэек на адлегласць некалькіх метраў.

Першым маім загадчыкам станцыі быў пакойны Аляксей Сухадола, народжаны ў 1894 годзе; другім быў пакойны Ян Карповіч, а трэцім пакойны Станіслаў Гарбалінскі, пры якім я 30 красавіка 1988 года выйшаў на пенсію. На сваіх начальнікаў: загадчыкаў станцыі, кантралёраў, загадчыкаў аддзелаў у Седльцах, Беластоку і Варшаве не магу наракаць, бо быў бы гэта грэх. Спяшалі яны з дапамогай у кожных жыццёвых абставінах, калі лёс прыносіў чалавеку нейкую бяду. Я, будучы загадчыкам бюро, стараўся свае абавязкі выконваць сумленна.

Работнікі адміністрацыі атрымлівалі шавіётавае і габардзінавае абмундзіраванне, суконныя шынялі, пантофлі, шапкі, а тыя, што працавалі ў неспрыяльных атмасферных умовах, кажухі і ватоўкі. Рамеснікі і работнікі дарожнай службы атрымлівалі параднае шавіётавае абмундзіраванне, суконныя шынялі, цікавую [цік — drelich] летнюю вопратку, ватоўкі, зімовыя курткі і нагавіцы, шапкі, парадны і рабочы абутак. Адзенне і абутак выдавалі вясною і восенню на вызначаны тэрмін карыстання: паўгода, год, паўтара года, два гады, чатыры гады, шэсць гадоў. Некаторыя работнікі запасліся адзежай на многія гады і прасілі, каб ім замест вопраткі плацілі грашовы эквівалент, на што чыгуначнае начальства давала згоду. Кожны чыгуначнік атрымліваў 12 бясплатных білетаў у год, а сям'я — тры білеты; для праезду хапіла напісаць на білеце дату адпраўлення ў дарогу і назад. Да таго ж чыгуначнікі і іх сямейнікі мелі льготу 80% на чыгуначныя білеты. Дзеці чыгуначнікаў, што даязджалі ў школы, атрымлівалі бясплатныя білеты. Кожны чыгуначнік атрымліваў вугальны дэпутат на 3,6 тоны, а калі не хацеў вугалю, тады атрымліваў грашовы эквівалент. Калі прыязджаў вагон з вуглем, вызначаны загадчыкам станцыі працаўнік выдаваў яго чыгуначнікам. Вугаль накідалі ў драўляную скрыню з ручкамі ёмістасцю ў сто кілаграмаў, важылі і пасля чатырох рабочых высыпалі той вугаль са скрыні на фурманку або трактарны прычэп. Работа пасоўвалася шпарка, вугаль быў якасны, у вялікіх кавалках. Дакументам для атрымання вугалю была адмысловая кніжачка з квартальнымі квітамі, што дазваляла зручна яго выдаваць. Чыгуначнікі і іх сямейнікі мелі службовыя персанальныя білеты для льготных аднаразовых праездаў чыгункай ды страхавы білет у амбулаторыю. Чыгунка мела свой медыцынскі персанал, бясплатныя амбулаторыі, шпіталі і санаторыі. Чыгуначная служба здароўя працавала беззаганна, не трэба было чакаць днямі ці месяцамі назначанага тэрміну ў лекараспецыяліста. Я сам у 1960-х гадах быў у санаторыях у Кудове і Душніках-Здроі; санаторыі значна палепшылі маё здароўе. Ляжаў я і ў павятовым ды ваяводскім шпіталях і там персанал быў беззаганны. Чыгуначныя ўлады прызначалі значныя беззваротныя грашовыя ўспамогі на рамонты ўласных дамоў чыгуначнікаў. Працавала безадсоткавая пазыковая каса, якою карысталіся некаторыя чыгуначнікі. Усе чыгуначнікі дарожнага адрэзка Нараўка належалі да чыгуначнага прафсаюза і да пазыкова-ўспамагальнай касы; месячныя складчыны былі невялікія. Быў рабочы савет, якога праўленне выбіралі на агульным сходзе. Заўсёды, нягледзячы на мой супраціў, выбіралі мяне сакратаром рабочага савета; не дазвалялі мне нават узяць голас, толькі аднадушна выбіралі сакратаром. Не мог я адмовіць даверу супрацоўнікаў і работу тую выконваў сумленна. Загадчык станцыі з сакратаром партарганізацыі ды рабочым саветам назначалі працаўнікам павышэнні, пераводзілі на вышэйшыя плацежныя рангі, павышаючы зарплату рабочых. Дзялілі яны таксама ўзнагароды з нагоды дзяржаўных свят і за выкананне месячных і гадавых планаў, а таксама за акцыю зімовага ачышчання пуцей ад снегу.

У зімовы перыяд чыгуначнікі атрымлівалі гарачы суп у тэрмасах са сталовай нараўчанскага ГСу. Гэты суп шафёры развозілі рэйкавым цягачом туды, дзе працавалі рабочыя. Пастаўка супу была цяжкай працай у зімовы перыяд, у марозы і завірухі. Але гэта трэба было выканаць, бо за гэтым сачыў інспектар па бяспецы і гігіене працы. Нельга было дапусціць да скаргі рабочых у вышэйшыя ўстановы, нават у малаважнай справе, бо тады кіраўніцтва чакала шмат непрыемнасцей, розныя расследаванні і кары. За час маёй працы на чыгунцы не было ніякіх скаргаў на нашу адміністрацыю. Бывалі выпадкі незадавальнення рабочых, але такія справы вырашаліся палюбоўна, высвятляючы іх прычыны. Зіма была вельмі дакучлівая, шмат фурманак з вёсак працавала на стрэлках, вывозячы снег з пуцей. Дарожны адрэзак налічваў 35 кіламетраў галоўнага пуці — ад Гайнаўкі да дзяржаўнай мяжы за Цісоўкай, некалькі дзясяткаў нармальных і шырокіх пуцей, каля сотні стрэлак, некалькі дзясяткаў пераездаў, у тым ліку тры са шлагбаўмамі, дзве галоўныя пасажырскія станцыі: Нараўка і Семяноўка ды пяць прыпынкаў пасажырскіх цягнікоў. Былі рампы для перагрузкі між нармальнапутнымі польскімі і шырокапутнымі савецкімі вагонамі. Розныя былі тавары і я не стану тут іх пералічваць.



Нараўчанскія чыгуначнікі (злева направа): Станіслаў Гарбалінскі, Мікалай Клімюк, Валянціна Зюзя, Уладзімір Клімюк. Фота з архіва Уладзіміра Клімюка

Быў час, што пасажырскі поезд з Варшавы непасрэдна ездзіў на станцыю Семяноўка і да прыпынку Цісоўка ў начную пару, а з Цісоўкі можна было без перасадак заехаць у сем гадзін раніцы ў Варшаву, афарміць там свае справы і тым жа поездам выехаць каля 16-й гадзіны ў Цісоўку. Па прычыне малалікасці пасажыраў той поезд прыязджаў, здаецца, каля 21-й гадзіны ў Гайнаўку, а пасажыр, едучы ў Нараўку або Цісоўку, перасядаў у г.зв. тарпеду, якая складалася з двух маторных вагонаў. Машыніст з памочнікам са сваёй кабіны ўважліва сачылі за бачнымі і нябачнымі сігналамі на шляху гэтай машыны і часта перад пераездамі ўключалі сігнал гудка чутны на некалькі сотняў метраў. У тарпедах была прыбіральня і такія машыны курсіруюць і ў сённяшні час на малалюдных чыгуначных трасах. Паравозы завозілі спярша паленымі ў спецыяльных герметычных печах дровамі, пасля вуглем. Тэхніка пайшла ўперад і паявіліся дызельныя лакаматывы і электравозы, больш эканамічныя і экалагічныя, якія не забруджваюць асяроддзя так як паравозы.

У час маёй працы на чыгунцы здарыўся выпадак, калі адзін рабочы сярэдняга ўзросту ў час працы праходзіў каля блакады ў памяшканні дзяжурнага руху, дзе меў паправіць падлогу. Блакада тая не была забяспечана сігнальшчыкам і маса жалеза паваліласяна рабочага, які мяняў прагнілыя дошкі падлогі і паламала яму абедзве нагі. Хутка прыехала санітарная машына і забрала яго ў гайнаўскі шпіталь. Пасля працяглага лячэння той чалавек устаў на ногі, вярнуўся на працу, але з засцярогай не надта цяжкай работы. Паліў ён у печах канцылярыі, прыбіраў, дзяжурыў пры тэлефоне.

Другі выпадак быў трагічны, калі на працы згінула двух рабочых — Мароз і Баршчэўскі, а трэці — Тапор, астаўся жывы, нават не паранены. Не помню года, калі гэта здарылася — была лютая зіма, намяло многа снегу. Майстар загадаў ім выканаць нейкую нескладаную работу; здарылася гэта на адрэзку Гайнаўка — Навасады ў даабедні час. Яны не захавалі асцярожнасці, двух з іх ішло між рэйкамі па цвярдзейшым снезе, а трэці ішоў побач. Ішлі супраць ветру, які дзьмуў ім снегам у вочы, вушанкі завязалі на вушах, поезда ззаду не чулі і двух іх загінула. У час завірухі не чуваць дрыжэння шпал ні водгаласу рэек ад стуку колаў лакаматыва і вагонаў. У завіруху бачнасць невялікая і машыніст, калі іх заўважыў, не змог спыніць поезда.

У вайну каля станцыі Нараўка немцы пабудавалі тартак, у якім трачавалі драўніну для сваіх мэтаў. Каля тартака пабудавалі асабнякі для сваіх майстроў і нашых рабочых. Майстры выехалі перад фронтам, а домікі асталіся. Такія два пустыя домікі перавезлі на станцыю. Адзін паставілі побач разбуранага вакзала і ў ім працаваў дзяжурны руху, прадавац білетаў, прымаў і адпраўляў цягнікі. Другі дом з пакоем і кухняй прызначылі загадчыку станцыі. Неўзабаве прыслалі ў вагонах знесеныя два баракі — гэта былі большыя штукі. Адзін барак склалі з гатовых элементаў за канцом перона. Меў ён 42 метры даўжыні, 12 метраў шырыні і 2,4 метра ад падлогі да столі. Уздоўж барака быў калідор двухметровай шырыні. З калідора былі дзверы ў памяшканні рознай велічыні, адгароджаныя сценкамі. Ацяплялі барак кафлевыя печы — з барака выходзіла дзесяць комінаў. Сцены былі збіты з дошак, паміж якіх было пілавінне. Вокны адзіночныя, недапасаваныя, між імі і сценамі прасвятляліся шчыліны. Другі барак пабудавалі недалёка станцыі для пагранічнікаў, таможнікаў і ахоўнікаў чыгункі. Зараз пасля вызвалення Нараўкі ў 1944 годзе загадчыкам станцыі быў Шыманскі, які пасля некалькіх гадоў выехаў, пасля яго Катэльбах з Чаромхі. Чарговым загадчыкам стаў мясцовы жыхар Новага Ляўкова Мікалай Несцярук; пасля яго быў Павел Леўша.

(працяг будзе)

**Спісаў Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

# „МЫ ТУТ БЫЛІ”


■ Лявон Тарасэвіч і Тадэвуш Рolькэ вітаюць гасцей


■ Што гэта будзе? – цікавяцца крынскія пенсіянеркі

— А што гэта тут? — прабуюць даведацца пажылыя пенсіянеркі, суседкі галерэі „Крынкі”.

— Людзей шмат і ўсе прыезджыя. Мабыць, яны беларусы, — дадумваюцца пахаваныя па сваіх хатах крынчане. — Столькі іх тут аднасова — даволі небяспечная з’ява.

— Я ўжо хадзіла паглядзець, — гутараць паміж сабою суседкі-пенсіянеркі.

— А я яшчэ не. Я потым цішком увайду.

— Як той злодзей?

— Цяпер баюся, яшчэ дзе нашпарацьі што будзе?

— Учора да паловы адзінаццатай стукаліся ў кіназале, я ж тут жыву. Сёння ў парк мо спаць пойдзем.

— Я была там ужо, глядзела, усё спадабалася. Такое колішняе, нашае. І Крынкі таксама на адным здымку бачыла.

Пятніца, 22 жніўня, 6 гадзін вечара. Пачынаецца пятнаццаты „Трыялог”. З чаго? Канешне, з вернісажу. На белых сценах галерэі „Крынкі” чорна-белыя выяўленні быццам мясцовых, старых завулкаў. Іх аўтар — Тадэвуш Ролькэ. Выглядае як з уласнага здымка — чорная вопратка „версус”, стыльная, сівая прычоска.

— Маю такое шчасце, — сказаў на адкрыцці мерапрыемства Лявон Тарасэвіч, — сустракаць у сваім жыцці знакамітых фатографаў. Першага, Віктара Дэдэрку, знайшоў на Старым Месце ў Варшаве ў 1972 годзе. Ён загаварыў да мяне па-беларуску. Другім быў Тадэвуш Ролькэ. З ім я пазнаёміўся ў 1984 годзе на вуліцы Фоксаль. Так я стаў наглядаць за ціхім Тадзем Ролькэ — гісторыяй польскай фатаграфіі.

Люблін, Варка, Гара-Кальварыя, Украіна. Памыліліся тыя, якія ўпэўнена сцвярджалі, што на фотаздымках убачылі Крынкі, значыць, большасць прысутных. Не было там таксама нічога з Беларусі.

— У Беларусі я не быў ніколі. Гэта адзіная суседка Польшчы, якой я ніколі не наведаў, — крыху з сорамам прызнаецца аўтар фотаздымкаў. — Прадстаўленая тут калекцыя з’яўляецца маім аўтарскім выбарам. Ніхто апрача мяне тут нічога не вырашаў. У тым яе адметнасць. Усе вобразы вельмі падобныя, хаця прадстаўляюць зусім розныя аб’екты. А яшчэ іх спалучае памяць.

**Тут жылі і зніклі**

— Доўгія гады хацеў я зрабіць нешта для яўрэяў — людзей, якіх памятаю з часоў дзяцінства. Я ўжо такі стары, што яшчэ бачыў іх на польскіх рынках. Помню таксама смак халкі, купленай у жыдоўскай пякарні. Думаў, што тут зрабіць, каб напомніць, што больш за палову жыхароў нашых гарадкоў складалі яўрэі, якія раптам зніклі. Выпадкова ў кнігарні я наткнуўся на кніжку Марціна Бубера „Хасідскія паданні”. Чытаючы, я апынуўся пад вялікім уражаннем ад інтэлектуальных і эмацыянальных магчымасцей цадыкаў — хасідскіх рэлігійных кіраўнікоў. У кніжцы былі пазначаны іх прозвішчы і месцы, у якіх жылі. І я ўжо ведаў, што мне рабіць. Паглядзеў я на карту, сеў у аўтобус і паехаў у першую мясцовасць — былы хасідскі цэнтр. Рашыў здымаць аб’екты перыяду да галакоста, пазбягаючы ўсякіх рэквізітаў сучаснасці. „Мы тут былі” — значыць тут жылі і зніклі. Асабіста раю моладзі і маім студэнтам займацца тым, што я называю культурай памяці. На ўвазе маю памяць не толькі пра жыдоў. У Польшчы ідзе яна ў заняпад.

Гледзячы на крынскія-някрынскія фотаздымкі

— З аднаго боку тыповая гісторыя, з другога моцная форма, незвычайная ігра святла і паўсядзённасць, — гаворыць Андрэй Каліноўскі з Фонду „Суседзі”.

— Выстаўка ўпісваецца. Крынкі гэта ж яўрэі, — кажа госць мерапрыемства Ян Карповіч з Гарадка. — Тут яшчэ іх хатаў шмат засталося. У нас, на вёсцы, расказвалі, што ў жыдоў і школы канчалі, і рамяству вучыліся. Дзе ж яшчэ можна было навучыцца фаху? Бацька ўспамінаў такога Іцка Гэльба. „Алёша, — казаў ён бацьку, — ты летам будзеш пасвіць кароў, але на восень-зіму прыходзь, будзем сталярству вучыцца”. І бабка Юля плаціла, не ведаю чым, мабыць, збожжам, бо грошай ніхто не бачыў. І бацька сталярству навучыўся.

— Мы тут былі, — сказаў Тамашу Суліму, які збіраўся ў падарожжа на крынскае мерапрыемства, ягоны родны дзед з Крывятыч. — Тады ездзілі ў Крынкі па ўсякіх бытавых і гандлёвых справах. Але цяпер навошта туды ехаць?

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**




Каля дзевяці гадоў таму, у снежні 2005 года, „Ніва” пісала пра беларусаў Канады і ў прыватнасці пра іх сайт у інтэрнэце. Месціўся ён тады па адрасе **www.belaruscanada.com** і выглядаў даволі сціпла. Прынамсі, не было аніякіх аздабленняў на галоўнай старонцы. У сваю чаргу былі некалькі рубрык, па змесце якіх можна было адсачыць дзейнасць канадскіх беларусаў. Сёння гэтага сайта ўжо няма. Але, дзякуй Богу, беларуская суполка ў Канадзе працягвае сваю дзейнасць, пра што і сведчыць новы сайт арганізаванай дыяспары.

Калі цікаўны карыстальнік набярэ на сваім камп’ютары адрас у інтэрнэце **http://belaruscanada.org**, то перад яго вачыма адкрыецца даволі прывабнае выяўленне створанага на бясплатнай платформе **Wordpress** сайта. Уверсе размешчана назва вэб-старонкі, а таксама герб „Пагоня” на фоне бел-чырвона-белага сцяга.

Праўда, адказу на пытанне, ці ёсць сайт „Беларусы Канады”, што месціцца па новым адрасе, працягам сайта дзевяцігадовай даўніны, мы не знойдзем. Пра нейкую перайманьнасць там увогуле не згадваецца.

У адрозненні ад свайго сайта-папярэдніка на новым няма нават некалькіх рубрык. Іх літаральна дзве — галоўная і тая, дзе размешчаны Статут Згуртавання беларусаў Канады. Аднак нягледзячы на нешматлікасць рубрык, напоўненасць інфармацыяй галоўнай старонкі дазваляе ўбачыць, чым жыве беларуская суполка ў Канадзе.

Зразумела, што ў жыцці дыяспар важныя падзеі не адбываюцца штодня. Таму і стужка паведамленняў абнаўляецца не надта часта. Так, апошняй навіной на сайце з’яўляецца расповед аб святкаванні сёлетніх угодкаў Дня Волі.

Не абыходзяць увагай канадскія беларусы і падзей на Украіне. Яшчэ ў сакавіку, калі расійскія войскі ўжо акупавалі Крым, нашы суайчыннікі пратэставалі супраць крамлёўскай палітыкі ў дачыненні да брацкага народа. Акрамя невялікага расповеду пра акцыю ў Таронта, што ініцыявалі тамтэйшыя ўкраінцы, можна паглядзець на тры фотаздымкі з беларусамі, якія ўдзельнічалі ў ёй з нашай сімволікай у руках. „Сябры беларускай дыяспары ў Таронта неаднаразова прыходзілі падтрымаць украінскія акцыі на працягу апошніх месяцаў, збіраючы выказваць салідарнасць і надзеі”, — запэўніваюць нас уладальнікі сайта.

Але жыццё беларусаў у Канадзе не абмяжоўваецца выключна палітычнымі акцыямі. Наступныя паведамленні, аздобленыя відэафайламі, распавядаюць пра калядныя святкаванні гэтага года. Прыемна бачыць, што ў відэа аб калядкай імпрэзе ўдзельнічае многа дзяцей. Гэта абазначае, што канадскія беларусы прывучаюць сваіх малых як да традыцый беларускага народа, так і да мовы, хоць самі паміж сабой на ёй размаўляюць не заўсёды.

Адметна, што ў адрозненні ад сайтаў іншых дыяспар, „Беларусы Канады” маюць толькі адну моўную версію — беларускую.

Калі паглядзець на правы бок сайта, то там можна ўбачыць як кантактную інфармацыю, так і выйсці на іншыя сайты і блогі, датычныя беларускай справы ў Канадзе. Так, там месціцца банер храма св. Кірылы Тураўскага ў Таронта, што належыць Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царкве, сайта Рады БНР (што натуральная, бо яе старшыня Івонка Сурвіла пражывае ў Канадзе), сайта беларускага інтэрнэт-часопіса „Сакавік”, а таксама блога спеўнага гурта „Яваровы людзі”, сябрамі якога з’яўляюцца канадскія беларусы.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з Календара

### Ілюстратар беларускіх класікаў

# 75 гадоў з дня смерці Язэпа Горыда



Нарадзіўся мастак Язэп Горыд 27 ліпеня 1896 г. у Адэсе. Ягонай маці была Браніслава Янкоўская. У Марыюпалі скончыў школу. Пайшоў на фронт Першай сусветнай вайны добраахвотнікам. На Кубані далучыўся да польскага войска Люцыяна Жалігоўскага, у складзе якога праз Бесарабію і Галіцыю, тройчы паранены стралец Язэп Горыд, дайшоў у 1921 г. да Вільні.

У 1923-1928 гг. вучыўся на Мастацкім факультэце Віленскага ўніверсітэта. Займаўся прыкладной і станковай графікай, станковым і манументальным жывапісам. У 1925 г. ён аздобіў выданне фальклярыста і музыказнаўцы Антона Грыневіча „Беларускі дзіцячы сьпеўнік”. У снежні 1926 г. распрацаваў лагатып грамадоўскай газеты **„Narodny zwon”**. Да 1928 г. — вядучы мастак сатырычнага часопіса „Маланка”, афармляў кнігі Максіма Багдановіча „Вянок” (другое выданне), Міхася Васілька „Шум бары”, Максіма Танка „Журавінавы цвет”, Рыгора Шырмы „Беларускія народныя песні”, Янкі Станкевіча „Беларускія (крывіцкія) казкі”, заходнебеларускія падручнікі. Сымон Рак-Міхайлоўскі заказаў у Горыда партрэты Якуба Коласа і Янкі Купалы. У мінскім музеі Купалы захоўваецца графічны адбітак партрэта песняра аўтарства Ніны Сасноўскай і Язэпа Горыда. Спадарыня Ніна зрабіла алоўкавы малюнак, а Горыд перавёў яго на літаграфскі камень.

У чэрвені 1928 г. Язэпа Горыда запрасілі паўдзельнічаць у выставе, што павінна адбыцца ў памяшканні рэстарана Урублеўскіх (на рагу Міцкевіча і Арэшкоўскага), на якую даслаў свае тры працы і вядомы мастак Люцыян Сляндзінскі. Пацяху мастак адышоў ад нізкааплатнай працы над беларускімі выданнямі. Горыд атрымаў памяшканне пад часовую майстэрню ў бернардзінскіх мурах, дзе выканаў першы манументальны заказ, які істотна падмацаваў яго фінансавы стан. У 1929 г. удзельнічаў у дзвюх выставах: у Вільні і Познані са сваімі станковымі творамі. З 1928 г. вучыўся ў Парыжы, дзе рабіў свае выставы ў 1925, 1928, 1930 гг. У 1930 г. пасля сваёй выставы ў Галерэі „Зак” вяртаецца ў Вільню.

Пасля вяртання робіцца папулярным мастаком, мае шмат заказаў. Удзельнічаў у распачатай 14 чэрвеня 1931 г. выставе, прымеркаванай да запачаткавання музея сучаснага мастацтва. Прэзентаваў свае працы на І Выставе твораў віленскіх мастакоў у Друскеніках. Ад пачатку 1932 г., тры гады запар, яго выставы атрымлівалі рэзананс у Варшаве. Год працаваў над заказам па выкананні вітражу і фрэсак у зале віленскага гарнізоннага казіно. У кастрычніку 1932 г. зладзіў персанальную выставу з 50-ці твораў. Тады ж, у 1930-я гг., зрабіў сграфіта на адміністрацыйным будынку па вуліцы Дамініканскай. У агульную, трохколерную кампазіцыю раслінна-дэкаратыўнага арнаменту, побач з нябесным апекуном Вільні, навечна пасяліў Скарынаўскі відарыс, што, дарэчы, захаваўся да сёння.

Паводле некаторых звестак, Язэп Горыд загінуў у час бамбавання Варшавы 1 верасня 1939 г. Паводле іншых звестак загінуў у гэты дзень пад Вільняй. Працы мастака захоўваюцца ў Літоўскім мастацкім музеі, Нацыянальным музеі ў Варшаве. У цэнтральным дзяржаўным архіве Літвы захоўваецца заліковая кніжка мастака, фота і іншыя яго дакументы.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Кляшчэлеўскія святкаванні з беларускім акцэнтам


Марк Скамароўскі зачараваны прыгажуняй з Дабжынева

Фота Уладзіміра СІДАРУКА

Традыцыйныя Дні Кляшчэляў адзначаліся сёлета 25-27 ліпеня. Пачаліся яны мерапрыемствам „Залатыя годы” ў пятніцу ў 16 гадзін у Гарадскім асяродку культуры, спорту і адпачынку „Гладышка”. Чатырнаццаць шлюбных пар былі ўзнагароджаны медалямі за супольнае 50-гадовае сужонства.

26 ліпеня на спартыўнай пляцоўцы „Орлік” праходзілі спартыўныя спаборніцтвы за кубак бургамістра горада. У валейбольным турніры ўдзельнічалі чатыры маладзёжныя каманды з Кляшчэляў. Перамагла каманда „Дэ Блюз”.

У 15 гадзін пачаўся розыгрыш па футболе. Удзельнічала восем каманд — з Бельска-Падляшскага, Чаромхі, Дубічаў-Царкоўных ды чатыры з Кляшчэляў. У фінале змагалася каманда гаспадароў МКС „Ожэл” з Бельскам-Падляшскім. Вынік аказаўся ўнічыю. Была „дагрыўка”. Канчаткова перамог МКС „Ожэл” 2:0. Варта адзначыць, што ўсе ўдзельнікі турніру атрымалі ганаровыя граматы, рэчавыя ўзнагароды і памятныя кубкі бургамістра Кляшчэляў. Узнагароды былі таксама прызначаны найлепшым футбалістам.

А ў 19 гадзін пачалася мастацкая частка. Выступілі мясцовыя „Мікстуркі”, салістка Сільвія Камінская, затым вакальна-інструментальны калектыў „Нарва” з Нарвы. Суботнія святкаванні закончыліся забавай. Да танца падыгрываў гурт „Дэкадэр” з Сямятыч.

У нядзелю, 27 ліпеня, стаяла цудоўнае сонечнае надвор’е. На пляцоўцы за „Гладышкай” шыкарна ўпрыгожаная сцэна з расцяжкамі „XVIII Dni Kleszczel” і „Беларускі народны фэст” чакала выступу артыстаў. А рэпертуар канцэрта, з беларускай ноткай разумеецца, пад назвай „Расспяваная нядзеля” прадвяшчаўся шматабяцальна.

Мерапрыемства пачалося з невялікім спазненнем, некалькі мінут пасля 16-й гадзіны, пры нешматлікай аўдыторыі. Бургамістр Ірэна Негярэвіч, пасля прывітання гасцей, у некалькіх словах традыцыйна расказала аб рэалізацыі важнейшых гмінных інвестыцый, затым пажадала ўдзельнікам сустрэчы прыемнага адпачынку і вясёлай забавы.

Першымі на сцэне выступілі госці з Мінска. Ансамбль песні і танца „Белы птах” заваражыў публіку шыкарнымі народнымі ўборамі і цудоўнымі песнямі. У час паўгадзіннага канцэрта прагучалі беларускія народныя песні: „Ехаў Ясь на кані”, „Цячэ вада ў ярок”, „Старонка беларуская”, „А я, чарнявая”, „Ой ляцелі гусі з броду”. Гітам канцэрта быў выступ чарговага мінскага ансамбля песні і танца „Бяседа”. Калектыў прывітаў публіку песняй „Добры дзень”, затым паплылі іншыя: „Будзь здароў гаспадар”, „А ў Марусі хата на памосце”, „Ой не асыпайся вішнёвы сад”, вальс „А ў лузе каліна”, „Што ты дзеўка ходзіш”, „Гары касцёр”. На развітанне госці прысвяцілі публіцы дзве песні: „Мы вам жадаем” і „Чарка на пасашок”.

Публікі прыбывала. На сцэну заходзіць вакальная група „ОМОФРОС” з Сямятыч. У праграме перапляталіся беларускія і польскія песні: вальс з кінафільма „Ночы і дні”, „Дзве кумы”, „Siedzieliśmy na dachu”...

Вядучая Таіса Барысюк абвяшчае вынікі конкурсу на найпрыгажэйшы агародчык. Лаўрэатам першай прэміі стала Валянціна Лукашук з Кляшчэляў, другое месца заваявала Анна Пілічук з Кляшчэляў, трэцяе — Люба Рошчанка з Дашоў, а вылучэнне атрымала Валянціна Сакоўская з Залешанаў. Лаўрэаты атрымалі ганаровыя граматы і рэчавыя ўзнагароды.

З вялікай павагай публіка прыняла выступ вакалісткі з Лодзі Барбары Градзенскай, якая запрэзентавала вядомыя гіты польскай эстрады сямідзясятых і васьмідзясятых гадоў: „Trzynastego”, „Jedziemy autostopem”, „Rudy rydz”, „Augustowskie noce”, „Józek” ды некалькі песень з рэпертуару Анны Герман, між іншым, вядомую песню „Чалавечы лёс” і „Шчаслівым быць”.

Падляшскай капэлы з Сямятыч Марка Скамароўскага не трэба было рэкамендаваць публіцы. Гэты музычна-вакальны гурт вядомы не толькі ў Кляшчэлях. Асабліва папулярным з’яўляецца лідар і саліст калектыву Марк Скамароўскі. Гэты „амант” пакарыў сэрца не адной прыгажуні. А спявае цудоўна, і жартаўнік ён дасканалы. У рэпертуары наперамен мяняліся польскія, украінскія, рускія ды беларускія песні: „Пад акном высокім”, „Смэрэка”, „Чэрвона рута”, „Тонкая рабіна” ці польскія: „12 listeczków”, „Żurawie”, „Pognała wołki”, „Jak dobrze kawalerem być”.

Канцэрт працягваўся. У далейшай частцы выступілі: „Studio X” і „Mażoretki” з Гайнаўскага дома культуры ды калектыў песні і танца „Нарвяне” з Дабжынева. Я не змог гэтай праграмы паглядзець. Выклікалі мяне гаспадарскія абавязкі. Набліжаўся вечар. А прадвяшчаліся яшчэ народныя танцы. Разумеецца, з беларускай ноткай. Да выступу рыхтаваўся вядомы гурт „АС”. Але, каму ў дарогу, таму час...

Дамоў падвезла мяне сардэчная сяброўка з Курашава, радная з Палічнай Аліна Залінская. За гэта ёй шчырае дзякуй!

**Уладзімір СІДАРУК**

# Па гарачых слядах

Гэтая невялікая плошча ў цэнтры Беластока выглядае на нічыю. Знаходзіцца тут кавалак зруйнаванага тратуара ды стаптанай і заезджанай пясчанай плошчы. Ляжаць тут абы-як пакладзеныя пабітыя пліты. З аднаго боку пляцоўкі слупкі і ланцугі прыгнутыя, прыдушаныя да зямлі.

Кожны дзень пешаходы ідуць сюдою да вакзальнага будынка ПКС. Даволі часта стаяць тут пасажырскія аўтамабілі і цяжка праціснуцца паміж імі.

Найгорш на гэтай гора-сцежцы пасля дажджу. Стаяць тады глыбокія лужы і поўна гразі. Прыходзіцца гэтае месца абходзіць наўкруг.

Такі занядбаны тратуар на пясчанай дарожцы знаходзіцца насупраць галоўнага ўваходу ў будынак з надпісам „Dworzec PKS Białystok” па вуліцы Герояў Монтэ- Касіна. Неабходна навесці тут парадак і пракласці брусчатку.

**(яц)**

# Адгаданка

1. паласатая кабылка ў саванне, 2. паўночная суседка Сардзініі, 3. выпускнік педагагічнага інстытута, 4. вышэйшая навуковая ўстанова, 5. савецкі скаўт, 6. інструмент, якога шавец не хавае ў мяшок, 7. савецкая ферма, 8. Іпацій, ураджэнец Камянеччыны, ініцыятар Брэсцкай уніі.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

(ш)

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | |
| | | | 1 | 2 | | | | 3 | |
| | 4 | | | 5 | | | | 6 | |
| | | | | | | | | | |
| | | 7 | | | | 8 | | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на адгаданку з 33 нумара

Іл, пацір, Піза, пяро, хлеў, Чавусы, чума, чыжык, шок, юрта.

Рашэнне: **Жывучы ля пекла і чорта з чарціхаю ў кумы папросіш**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко** з Беластока і **Лявону Федаруку** з Рыбалаў.

# 07.09 — 13.09

**(22.03. — 20.04.)** Форма добрая. У пачуццях магчымая крышына расчараванняў (8-12.09.). Прыгнятуць абавязкі і штодзённшчына. Пільнуй сваіх задач, трымай руку на пульсе. Жыццё набярэ размаху. Адсвяжы знаёмствы, заплануй супольныя дзеянні. Верасень добры на сур’ёзныя фінансавыя планы. Але не дзейнічай пад дыктант, не паддавайся націску. З 11.09. (да 15.09.) магчымыя небяспечныя здарэнні.

**(21.04. — 21.05.)** Форма, настрой і выгляд добрыя, але збегай да лекара. 6-10.09. не ўсё пойдзе па тваёй думцы. І спешка, і адмаўленне не будуць цяпер тваімі саюзнікамі. Не дай сябе зманіць ілюзорным абяцаннем, сам нічога не абяцай 8-12.09. 7-9.09. — вырашальны момант у тваіх прафесійных дзеяннях; адважна стань перад праблемамі.

**(22.05. — 22.06.)** 8-12.09. шмат мілых здарэнняў, будзеш жвавы, баявіты, у добрым настроі. На працы карысны пералом. 8-15.09. партнёр дакажа, што не заўсёды рацыя на тваім баку. Інвестуй 8.09. 9-13.09. — знакаміты момант, каб задбаць аб выгляд. Форма добрая (можа толькі крыху пабаліць галава ці лёгка прастудзішся). 9-10.09. можаш з поспехам паддацца лекарскім працэдурам. З 11.09. будзеш мець ахвоту пабуяніць.

**(23.06. — 23.07.)** 7-9.09. будзеш вельмі крэатыўны; магчымы прыліў грошай. З 12.09. узмоцняцца твае пачуцці; магчымы крыху беспардонны ўваход у тваё жыццё новага партнёра. 9-13.09. умела пакіруеш справамі, якія дагэтуль уцякалі з-пад твайго кантролю. На працы выкажы свае думкі і зрабі тое, на што маеш ахвоту, не пашкадуеш.

**(24.07. — 23.08.)**. 9-13.09. розум возьме верх над эмоцыямі. Варта вырашаць у фінансах, афармляць справы, негацыяваць. 6-10.09. дробныя перашкоды памяшаюць у пачатых ужо праектах. У пачуццях як на каруселі. 7-11.09. добры час на рашэнні наконт пачуццёвых сувязей і на супольныя дзеянні. Пазбягай асоб, што бязлітасна раняць іншых і тых, што не могуць даць табе таго чаго хочаш.

**(24.08. — 23.09.)** 8-12.09. рэалізуй усе творчыя і фінансавыя рашэнні. Пачатыя праекты ўдадуцца, хутка станеш папулярным. З 12.09. паявяцца выгадныя нагоды для наладжання знаёмстваў. Але 8-10.09. цяжка будзе прывыкнуць да новых асоб, а ў пачуццях могуць выявіцца цёмныя справы партнёра. Не купляй непатрэбшчыны.

**(24.09. — 23.10.)** Не прыспешвай ходу спраў. На працы шмат балагану, які прыбраць прыйдзецца табе. 8-12.09. трэба будзе налегчы на работу. Не вер ва ўсё, што пачуеш 8-12.09.; або сам падвергнешся ілюзіі, або хтосьці схоча цябе ўвесці ў зман. Час таксама ненайлепшы на любоўныя дэкларацыі. Звярні ўвагу на недамаганні свайго арганізма.

**(24.10. — 22.11.)** 8-12.09. трымайся здалёк ад фінансаў, не дайся ўцягнуцца ў бізнес, на якім шмат страціш. З 12.09. узмоцняцца пачуцці, варта высветліць праблематычныя справы. З 11.09. выйдуць на святло сямейныя справы, якія ты хацеў бы захаваць у сакрэце; не панікуй. Твае нерэалістычныя патрабаванні могуць стаць перашкодай у шчасці ў пары. Дома выкажыся большай ініцыятыўнасцю. Падлячы свой стрававальны шлях

**(23.11. — 22.12.)** 8-10.09. вельмі пільнуй свайго здароўя, не кантактуйся з хворымі. 7-9.09. маеш добрую руку да грошай. На працы калькулюй; хутка не значыць добра. З 12.09. магчымыя фінансавыя і сямейныя праблемы; будзь больш паблажлівым для іншых.

**(23.12. — 20.01.)** Добрая форма, хаця 8-12.09. магчымыя завіраванні ў здароўі — не натужвайся на працы. Не хваліся лішне сваімі поспехамі — і так цябе дацэняць. Захочацца змен — твае дзеянні прынясуць незвычайныя эфекты.

**(21.01. — 19.02.)** У пачуццях шаленства і сюрпрызы. У фінансах толк і абачлівасць. 8-12.09. магчымае сардэчнае расчараванне — адносся з дыстанцыяй да ўсяго навокал. Поспехі залежныя ад накладу працы і заплаты; не бойся сур’ёзных рашэнняў, маеш тузы ў рукаве!

**(20.02. — 21.03.)** Добра дагаворышся з людзьмі. Не страчвай галавы ў пачуццях, разваж, што для цябе добрае, а што не. Някепска са здароўем. На працы паказвай свае перавагі. Але 8-12.09. пагасіш крызіс, на хвіліну — нявырашанае можа вярнуцца з падвойнай сілай. Вельмі пільнуйся з 11.09 (да 15.09.) — не выдай грошай памылкова, не загарыся да якойсьці прапановы, якая прынясе толькі клопаты і страты.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2014 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 000 egz.

Як з чыгуначнай станцыі Нараўка зайсці ў Ляўкова? Калісь, калі яшчэ там не ездзілі пасажырскія аўтобусы, шматлюдны тады вясковы народ карыстаўся чыгункай. Найчасцей было гэта вучнёўства, ільвіная доля якога хадзіла на станцыю пяшком, пратоптваючы зручныя, каратаючыя дарогу сцежкі. Гэта было калісь, а цяпер станцыя бязлюдная, а па колішніх сцежках і сляды прапалі. Цяпер асталіся толькі асфальтоўкі, а дакладней кажучы — ваяводская дарога № 685. Якая гэта дарога між Станцыяй — так было ў Ляўкове прынялося называць Плянту — і менавіта Новым Ляўковам, нашым чытачам, мяркую, вядома, бо яна заўпарцілася трымацца Польшчы Б. А мне заўпарцілася пакарыстацца нейкім альтэрнатыўным шляхам...



# Каля Ляўкова чорны кот

Калісь людзі проста з перонаў не ішлі на афіцыйную дарогу, тады з бруkавым насцілам, толькі перасякалі таварныя пуці; калі на іх стаялі эшалоны, людзі пераходзілі рэйкі пад счапленнямі. Небяспечна гэта было, але ўдавалася. Цяпер тых таварных пуцёў на станцыі ўжо няма, адно на іх месцы расце прырода. А за імі, за паралельнай да галоўнай чыгункі палявой дарогай — чарговая таварная станцыя з пяці, бадай, пуцёў, пабудаваная бадай яшчэ пры Гамульцы, для фарміравання эшалонаў з ляўкоўскай цэглай. А ад гэтай станцыі чыгуначная ветка да керамічнага ляўкоўскага завода. Значыць — альтэрнатыўны шлях у Ляўкова...

Зарасла гэтая станцыя прыродай таксама і спачатку я пакарыстаўся паралельнай да яе дарожкай, па якой, відаць, яшчэ час ад часу ездзяць нейкі вясковы транспарт. Але неўзабаве ўзабраўся на пуці, мяркуючы, што па іх удасца мне зайсці ў Ляўкова. Прызнаюся, што мне пашанцавала, бо на пуцях красаваліся пянькі нядаўна спілаванага лесу, што ўспеў ужо вырасці на тых чыгуначных пуцях. Таўсцейшая драўніна была ўжо прыбрана, асталося на пуцях толькі дробнае голле. Ды і тыя пуці ўжо крышку „прыбраныя” — няма ўжо некаторых рэек, няма некаторых стрэлак; прымяняючы „асфальтавую” тэрміналогію можна нават сказаць, што на той жалезнай дарозе поўна калдобін і ўхабін. А аб тыя рэйкі, што яшчэ асталіся, выгадна абаперліся маладыя мурашнікі; сухі, да таго ж ціхі цяпер насып — мурашкам рай.

Дрэвы — сасна і бяроза на чыгунцы ды асіна побач — з большага высечаны толькі на адрэзку між станцыяй Нараўкай і поймай рэчкі Баброўкі; на поймавым адрэзку дрэвы не выраслі. А ад дарогі з Новага Ляўкова ў Лазовае чыгуначны пуць у Старое Ляўкова ўжо непраходны, парослы ўсялякім гушчаром.

Дарога, паводле слоўніка, гэта паласа зямлі, прызначаная для язды і хадзьбы, якая злучае асобныя пункты мясцовасці. Дарога — гэта таксама існаванне ва ўсёпаглынаючым часе, гэта своеасаблівая паралель часу, у якім нейкі суб’ект існуе на працягу нейкага перыяду, а перыяд той мае свае адпраўны і фінальны пункты. Не інакш і з дарогай, якая б яна не была: у яе пачатак і канец не толькі ў прасторавым, тапаграфічным сэнсе, але і ў часавым. Адносіцца гэта і да чыгуначнай веткі са станцыі Нараўка да ляўкоўскай „Цэрамікі”; зараз яна няспешна набліжаецца да нейкага свайго фіналу. А які быў яе пачатак?

З такім пытаннем звярнуўся я да свайго аднакласніка, Косці Целушэцкага, які ўвесь час жыве ў Новым Ляўкове і з’яўляецца навочным сведкам усіх тых змен, што адбываліся і адбываюцца ў ляўкоўскім наваколлі.

Чыгуначную ветку ў Старое Ляўкова пабудавалі дзеля вывазу прадукцыі з тамашняга керамічнага завода, які быў узведзены ў 1960-х гадах. Калі быў узведзены першы цэх завода, тады яшчэ чыгункі не пракладалі, але калі сталі ўзводзіць другі цэх, значна магутнейшы за першы, тады і пачалася пракладка чыгуначнай веткі. Спачатку выкупілі ў сялян участкі зямлі, па якіх мела пралегчы чыгунка. Людзі ставіліся да гэтай здзелкі па-рознаму, бо ж чыгуначная паласа раздзяляла іхнія ўчасткі; найбольш бунтаваўся супраць пазбаўлення часткі зямельнай маёмасці сусед майго субяседніка...

Ветку будавала вонкавая фірма, але кіраўніком работ быў мясцовы чалавек Аляксандр Несцярук, які веды па чыгуначным будаўніцтве здабыў недзе „ў Польшчы”. Зямлю вазілі вялікімі самазваламі маркі „**Berliet**”. Наогул было так, што зямлю, якую выбіралі з вышэйшых участкаў, насыпалі на ніжэйшыя; найбольш зямлі спатрэбілася на насып у пойме Баброўкі. Гэтыя самазвалы працавалі не толькі нівеліруючы шлях будучай веткі, яны таксама шмат пашабашнічалі ў карысць мясцовых гаспадароў.

Апрача згаданых раз’ездаў каля станцыі Нараўка былі пабудаваны таксама раз’езды і ў вобрубе Новага Ляўкова, зараз пры мяжы са стараляўкоўскім вобрубам. Было пабудавана таксама невялічкае паравознае дэпо пры самім заводзе. Пад рампу каля керамічнага завода можна было паставіць восем крытых таварных вагонаў. Значная частка загрузкі адбывалася ўручную; машына пастаўляла паддон цэглаў у дзверы вагона, а рабочыя ўручную расстаўлялі тыя цэглы ўнутры вагона. Спачатку сцены вагона абстаўлялі саломай, а ўжо пазней сталі карыстацца кардонавымі лістамі. Салому завод купляў у сялян, павінна яна была быць простай, вязанай у снапы. Тую салому прыціскалі першымі цэглямі да сцяны, а пасля клалі чарговыя цэглы. Цэглу вазілі ў крытых вагонах мабыць таму, каб ніхто яе ў дарозе не выкрадаў.

А ў адкрытых вагонах прывозілі ў завод вугаль. Той вугаль разгружалі ў Ляўкове экскаватарамі. Экскаватар каўшом выбіраў вугаль з вагона, а калі паказвалася ў вагоне дно, тады ў вагон заходзілі рабочыя з шуфелямі і недасяжны для каўша вугаль накідалі ў той жа коўш. Небяспечная гэта была работа і, здаецца, нязгодная з правіламі аховы працы, бо аператар экскаватара не бачыў людзей унутры вагона і калі апускаў у вагон коўш, мог каго прыгнесці. Але абышлося... Разгрузка вугалю, асабліва ж вугальнай крошкі, была працай добра аплачванай, таму ахвотных да гэтай работы было шмат. Калі вагоны з вугалем для ляўкоўскага завода паяўляліся на станцыі Нараўка, там жа на тыя вагоны ўзлазілі ахвотныя і ехалі наверсе вагона, заняўшы загадзя рабочыя месцы.

Быў час, што амаль усю вытворчасць ляўкоўскага завода вывозілі чыгункай, але пасля стала паяўляцца штораз больш грузавікоў, якія пастаўлялі цэглу непасрэдна ў месцы назначэння. Грузавікі ляўкоўскага завода развозілі цэглу ў навакольныя геэсы, а пасля ўжо і непасрэдна індывідуальным пакупнікам. Сталі паяўляцца і больш выгадныя прыватныя перавозчыкі і чыгуначны транспарт не мог справіцца з такою канкурэнцыяй, становячыся зусім непатрэбным і рэйкі з ходам часу сталі штораз больш зарастаць прыродай.

Дарога, у тым ліку і вымашчаная жалезнымі рэйкамі, мае таксама сімвалічнае значэнне. Гэта месца, дзе здзяйсняецца лёс, дзе чалавек ці іншы суб’ект спатыкаецца з іншымі людзьмі, з жывотнымі ды з уявамі сваёй фантазіі. Асаблівым лёсавызначальным месцам з’яўляюцца расхадныя дарогі, дзе чалавеку прыходзіцца выбіраць. І ў тых месцах збіраецца асабліва многа нячыстых сіл, радых паздзекавацца над збітым імі з панталыку чалавекам. Па дарогах ходзяць шчасці і няшчасці. Калі дарогу чалавеку пяройдзе чорны кот, ён таму чалавеку забірае ўдачу. Калі дарогу пяройдзе іншы чалавек, ён таксама забірае нейкую долю, бывае, што і благую. Таму, бывала, на дарогу выносілі нейкія хатнія прадметы, запар з якімі мела адысці ў свет нейкая бяда; дзеля гэтага захілення ад бяды не так даўно на расхадных дарогі між Новым Беразовам і Дубічамі-Асочнымі нехта вынес быў унітаз...

Цікава слова *дарога* тлумачаць этымалагічныя слоўнікі. Прыкладам: „слово *дорога*, родственное глаголам *драть* и *дергать*, происходит от древней славянской основы *дьр-* (*дор*) — расчищенное, то есть ’продранное, выдерганное’ место”. Іншы прыклад: „***droga, dróżka, podróż, podróżnik, zdrożny*** (porównaj ***zbrodnia***, ’co z drogi, brodu wykracza’), dawniej i ***drożny***, ’co godny’”.

А вось чыгуначнай ветцы — той дарозе, жалезнай — са станцыі Нараўка да керамічнага завода ў Старым Ляўкове дарогу перабег чорны кот у выглядзе аўтамабільнага грузавога транспарту. І магло б здавацца, што ўжо той чорны кот набегаўся, што знайшоў ён нейкі цёплы прыпечак, дзе ўлёгся выгадна мурлыкаць. Але чорны кот гэта незвычайны кот — ён працавіты, ён бегае няспынна...



Керамічны завод у Старым Ляўкове пульсаваў да нядаўняга часу сваім вонкавым выглядам, такою своеасаблівою сінусоідаю з гадавым перыядам. У зімовую пару, калі спынялася агульнае будаўніцтва, на фабрычным ляўкоўскім пляцы расла сцяна цаглістых цэглаў. Калі ж наставаў летні час, перыяд будаўнічага ажыўлення, тая цагляная амплітуда апускалася да ўзроўню грунту. І так было з году ў год, аднак зараз той ляўкоўскі ландшафтны маятнік спыніўся. Вось зараз, у канцы летняга сезона, калі раней пусцеў фабрычны ляўкоўскі пляц, цяпер той пляц надалей поўны. Цэгла з Ляўкова не надта вывозіцца. І хто ведае, ці тая „Цэраміка” не набліжаецца да таго месца на сваёй абстрактнай дарозе, на якім апынулася ейная чыгуначная ветка. І тут чорным катом здаецца быць бежанства нашага насельніцтва з вёсак, спачатку ў бліжэйшыя гарады, а з ходам часу ў штораз далейшыя. Штораз далейшыя ад ляўкоўскай фабрыкі...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960